

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 7(43) Ліпень 1997 July Год выд. 5


## ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!

**Зварот інтэлігенцыі да народу Беларусі.**

Дарагія суайчыньнікі! Браты і сёстры!

Сёньня ўсе мы балюча адчуваем жахлівыя вынікі эканамічнага і палітычнага крызісу і здрады. Нашыя дзеці недаядаюць. У іх няма самага неабходнага. Заўсёды цярплівы народ губляе веру ў будучыню. Мы страчваем векавыя маральныя каштоўнасьці, выракаемся сваёй культуры, сваёй гістарычнай памяці і мовы. Надзеі на лепшае жыцьцё разьбіваюцца аб цынізм і хлусьню наваяўленых палітыканаў. Усё разрабоўваецца. Адны багацеюць, а другія даведзеныя да адчаю, галечы. На вачах усяго сьвету Беларусь вяртаецца ў сыстэму, якая ўжо зьнішчыла мільёны чалавечых жыцьцяў, і пад пустыя прэзыдэнцкія абяцанкі "раю" коціцца ў прорву. Беларусь — за мяжою цывілізацыі: паглыбілася наша міжнародная ізаляцыя.

Мы, беларуская інтэлігенцыя, прадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў і веравызнаньняў, у тым ліку пісьменьнікі і журналісты, прадстаўнікі культуры, асьветы, навукі, грамадзкіх арганізацыяў, зьвяртаемся да ўсяго народу Беларусі з заклікамі.

Абаронім суверэнітэт Радзімы, каб застацца на зямлі народам з уласнаю гісторыяй і будучыняй!

Выступім супраць авантурных змоваў, за якімі стаяць ня клопаты пра людзей, а палітыканскія амбіцыі і імпэрскія пляны. Так званая інтэграцыя ператворыць беларускую зямлю ў заложніцу палітычных разборак. Мы — за сяброўскія міжнародныя адносіны. Але мы — за Беларусь суверэнную! За свабоду слова і сходаў, за права быць гаспадарамі ў сваім доме. Мы — супраць паліцэйскіх дубінак, якія калечаць нават жанчын і дзяцей! Мы — супраць рэжыму таталітарнага насільля!

Народ Беларусі!

У імя будучыні нашых дзяцей — абаронім ад манкуртаў незалежнасьць Бацькаўшчыны!

НЕ — палітычным авантурам!

НЕ — нацыянальнаму самазабойству!

*С. Алексіевіч, Р. Барадулін, Я. Брыль, Г. Бураўкін, В. Быкаў, Р. Гарэцкі, Н. Гілевіч, А. Мальдзіс, Б. Пятровіч (Сачанка), Г. Сурмач і яшчэ больш за 200 подпісаў прадстаўнікоў творчых саюзаў, настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ, грамадзкіх і культурных дзеячоў*



## Спадарыня Зора КІПЕЛЬ

**літаратуравед, рэдактар, аўтар некалькіх кніжак і шматлікіх артыкулаў на беларускія тэмы ў англамоўным друку, спэцыялістка Беларусі і адна з вядучых навукоўцаў Амэрыкі ў вывучэньні раньніх славянскіх друкаў, грамадзкая дзеячка, вялікая патрыётка Бацькаўшчыны.**

**Дарагая Зора! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты з Днём народзінаў.**



*Людміла МАЙСЕНЯ*

*Народная Воля*

## Мутацыі ў кірунку трохгаловага арла

*Калонія — краіна або тэрыторыя, якая знаходзіцца пад уладай замежнай дзяржавы (метраполіі), пазбаўленая палітычнай і эканамічнай самастойнасці, і якая кіруецца на аснове спецыяльнага рэжыму (паводле "Большого энциклопедического словаря", т.1, М., 1991).*

### Калонія памерла... Віват калонія!

Кожны, хто бярэцца за аналіз сённяшняй беларускай сітуацыі, бясспрэчна, балансуе паміж суб'ектыўнасцю і аб'ектыўнасцю. А між тым рэаліі такія, што мы ўжо масава даспелі, каб сказаць "А" — засведчыць імперскую прыроду Расіі, але яшчэ толькі млява збіраемся сказаць лагічнае "В" — усвядоміць нашу каланіяльную сутнасць.

У савецкім мінулым нас упарта і паспяхова прывучалі, што калоніі маглі мець толькі капіталістычныя дзяржавы, да прыкладу Брытанія, Францыя, Германія. На самой жа справе гісторыя чалавецтва ведала яшчэ і наймагутную сацыялістычную імперыю, у якой Беларусь была цалкам пазбаўлена палітычнай і эканамічнай самастойнасці і, што самае істотнае для разумення цяперашняга нашага стану, беларускі этнас быў гвалтоўна асіміляваны больш магутным этнасам метраполіі. Ад поўнага знішчэння беларускай нацыі нас урагавала неаднароднасць Савецкага Саюза — жывая адметнасць іншых нацый. Гэтая неаднароднасць і сталася адной з прычын распаду СССР. Па інерцыі, разам з іншымі, агулам, мы атрымалі гістарычны шанц для будавання сваёй дзяржавы. Але той факт, што сціранне менавіта беларускай спецыфікі адбылося найбольш глыбока (ад макраэканомікі і палітыкі да свядомасці людзей), і тлумачыць, чаму з такой вялікай сілай сутыкнуліся зараз аб'ектыўныя і суб'ектыўныя фактары нашага развіцця. Да таго ж, у спадчыну ад былой сістэмы нам перайшла і старая партнаменклатура, якая, у адрозненне ад такой у новых незалежных дзяржавах, амаль уся выступіла як носьбіт савецкай імперскай ідэалогіі. І пры гэтым за ёю захавалася фактычная ўлада ў Беларусі.

Фатальны зыход у развіцці дэмакратычных пераўтварэнняў стаў непазбежным пасля таго, як у аснову палітычнай і эканамічнай дзейнасці маладой дзяржавы не былі пакладзены такія магутныя рухавікі яе прагрэсу, як *Нацыянальная ідэя* і *Нацыянальныя інтарэсы*.

Адна з асноўных прычын цяперашняга паражэння палягае і ў тым, што ліберальная дэмакратыя будавала сваю дзейнасць не на аснове ўласнабеларускіх інтарэсаў і ўласнабеларускіх каштоўнасцяў, а на ілюзорным фундаменце "дэмакратыі без нацыяналізму" — нейкай чыстай, касмапалітычнай дэмакратыі. Не выпадкова, што з такім падыходам (пры нашай этнічнай сітуацыі) цэльная нацыянальная ідэя не была выпрацавана. Але мясцовай палітычнай эліце хацелася стварыць прэцэдэнт, і пайшлі невыразныя спасылкі то на мадэль Швейцарыі, то на мадэль Швецыі, то на мадэль Аўстрыі—Германіі, хоць на самой справе рэалізоўвалася ўсё па расійскаму вобразу і падабенству. У выніку нацыянальна-дэмакратычны рух атрымаў супраціўленне ад старой камуністычнай партнаменклатуры, пятай калоны ў Беларусі, шавіністычных сілаў у Расіі і не атрымаў падтрымкі ад тых, хто лічыў сябе "агульнымі" дэмакратамі. І такое адбывалася ў той час, калі ў іншых былых рэспубліках СССР нават камуністы, у сваёй масе, змаглі трансфармавацца ў нацыянал-камуністаў.

Нягледзячы на гэта, Беларусь, зацягнутая ў новыя працэсы, працягвала рэалізоўваць сваю нестабільную дэмакратыю. Разгублены М.Дзямянцей, на якога выпала паўната ўлады, быў заменены больш адэкватнай кандыдатурай — С.Шушкевічам. Аднак, на вялікі жаль, новая асоба не змагла стаць Палітыкам Новага Часу. Абраная пры яго бытнасці спікерам стратэгічная лінія Вярхоўнага Савета зводзілася да пошуку згоды паміж старым і новым, капіталістычным і камуністычным, каланіяльным і суверэнным, ліберальным і нацыянальным.

Усё гэта прывяло да таго, што беларуская нацыя так і не атрымала патрэбнага імпульсу для свайго фарміравання, а дачыненні паміж Мінскам і Масквой пачалі набываць выразныя рысы неакаланіялізму. Вялікае шкадаванне выклікае і тое, што негатоўнасць тагачаснай палітычнай эліты да цвёрдай нацыянальнай арыентацыі пазбавіла нас далей магчымасці так званай "аксамітавай рэвалюцыі".

За тры гады, да лета 1994 года, не адбылася актуалізацыя ***Беларускай ідэі***, і прыход у такіх абставінах лідэра тыпу Лукашэнкі быў непазбежным. Ён сапраўды выказаў тое, што было актуальным на той час для большасці грамадзян Беларусі, — жаданне пазбегнуць цяжкасцяў праз вяртанне ў мінулае. Для гэтага яму не спатрэбілася ні праграмы, ні каманды, ні маралі. Дастаткова было падысці да палітыкі выключна спекулятыўна.

Магчыма, толькі на мікрамомант завагаўся першы беларускі прэзідэнт у бок нашай перспектывы (успомнім выступленне ў Дзень незалежнасці 27 ліпеня 1994 года). Але каб свядома і мэтанакіравана ісці гэтым шляхам, яму спатрэбілася б не што іншае, як зрабіць стаўку на дзяржаўны патрыятызм, маральнасць і прафесіяналізм у палітыцы. А гэта было недасягальным, бо трэба было стаць адмаўленнем самога сябе. Ды і "данайцы", якія спрыялі прыходу да ўлады, можна думаць, абяцалі Аляксандру Рыгоравічу багатыя дары ў выглядзе ўсёй імперыі. А таму надалей усе крокі першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь набылі цвёрдую лагічную аснову, якую можна выразіць формулай: **праз уладу над калоніяй — да ўлады над імперыяй.** У выніку атрымліваюць сваё тлумачэнне і знішчэнне нацыянальнай эканомікі з-за эканамічнай экспансіі Расіі, і разбурэнне нашай палітычнай сістэмы, і ўсе рэферэндумныя дзеянні па знішчэнні нацыянальных каштоўнасцяў — мовы, сімволікі, Дня незалежнасці.

Бедствам найвялікшай сілы для беларускай нацыі сталася акцыя пад кодавай назвай "Рэферэндум №1". Узаконеная арыентацыя на Усход дабівала ўласнабеларускую гаспадарку, духоўнасць, ініцыятыву, годнасць. На панэль была выкінута згвалтаваная мараль значнай часткі насельніцтва. І, нарэшце, знішчалася самае асноўнае — матывацыя будавання незалежнай, дэмакратычнай, заможнай Беларусі. Разам з гэтым нарастала, абмяркоўвалася ў прэсе, пашыралася на бязмежныя расійскія прасторы, дасягала структур NATO неабсяжнае жаданне прэзідэнта Беларусі стаць кіраўніком "союза, которого свет не видел". **Такога аб'яднання, дзе да дзвюх галоў расійскага арла будзе дададзена трэцяя — наша.**

У святле гэтых ініцыятыў, выглядае абсалютна лагічным і зразумелым, чаму ў аснове "новай" дзяржаўнай ідэалогіі ляжыць панславізм і чаму менавіта "праваслаўныя атэісты" ў фаворы. Мэты гэтых дзеянняў відавочныя — замацаваць у беларусаў каланіяльную ментальнасць і тым пазбавіць нас гістарычнага шанцу.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# *ЗАГАДКА МАРКА ШАГАЛА*

(Да 110-годзьдзя з дня нараджэньня)

Я сьцены сьветлыя маляваў,
на сцэне музыкаў, танцораў парыў.
Чырвонымі, жоўтымі фарбамі вам
блакіт і аўру я падарыў.
Браты замоўклыя,
бегчы ня ўзбоч,
а ўпоплеч
да зор я хачу якраз,
і сьветлай стане цёмная ноч,
і ўсе народы пачуюць вас.
Марк Шагал
(пераклад Р. Барадуліна)

Ён пісаў цудоўныя вершы, але больш за ўсё яму хацелася маляваць. І ён стаў мастаком. Вялікім мастаком, як і адлюстраваў у сваіх творах сутнасьць і дух дваццатага стагодзьдзя, такога-ж, як ён, бунтоўнага, шматфарбнага, загадкавага. І пражыў ён без малога цэлае стагодзьдзе, прадаўжаючы працаваць да апошняга дня, да апошняга дыханьня.

Марк Шагал нарадзіўся ў беларускім горадзе Віцебску 5 ліпеня 1887 году ў яўрэйскай сям'і. Родны горад заставаўся вечным сімвалам на палотнах і ў манумэнтальных працах мастака. "Віцебск — гэта месца асаблівае, — напіша Марк Шагал у сваёй славутай кнізе "Маё жыцьцё". — Тут і шукайце мяне, вось я, мае карціны, мае вытокі."

Безумоўна, у аснове вытокаў яго яскравай індывідуальнасьці перш за ўсё — яўрэйская духоўная традыцыя, яўрэйская гісторыя, яўрэйскі побыт. Але, мне здаецца, толькі адзіная нацыянальная духоўная крыніца не магла-б даць такую прастору незвычайнаму буйнству яго мастакоўскай фантазіі. Многае ў духоўнасьці розных краін і народаў зьмешвалася ў першым і другім дзесяцігодзьдзях дваццатага стагодзьдзя, калі пачынаў Шагал; многае таленавітае нараджалася нібы на стыку культур, моваў, традыцыяў. І на Марка Шагала ўплывалі ня толькі свой яўрэйскі, але і духоўны этнас і фальклор беларусаў, што існаваў тут-жа, побач, у Віцебску і мястэчках, асабліва ўсё тое, што было зьвязана з дахрысьціянскімі, паганскімі вобразамі, сімваламі, абраднасьцю. Да гэтага варта дадаць традыцыі ўнікальнай школы іканапісу тых мясьцінаў на мяжы праваслаўя і каталіцтва, дзе і свабодная кампазыцыя, і адыход ад кананічных сюжэтаў, і жывыя рэальныя рысы ў міфалагічных пэрсанажаў, і нечаканыя каларыстычныя спалучэньні.

Яны-ж сапраўдныя летуценьнікі — гэтыя шагалаўскія пэрсанажы, якія лётаюць над зямлёй у яго карцінах! Сімволіка паганства чытаецца ў кампазыцыях мастака, кожная нібы дзіўны сон, у кульце жывой істоты, у абагаўленьні адвечных сіл прыроды і перш за ўсё — неба і сонца, у пастанным



матыве вяртаньня да роднай мясьціны — да віцебскага дома і ўсяго горада з яго сінагогамі, і цэрквамі, тыповымі вулічнымі сцэнкамі і нясьпешнай побытавай мітусьнёй. Неспакойны час з сусьветнымі войнамі дадаў да ўсяго гэтага і матыў адвечнай трывогі за родную мясьціну, за родны дом, за сябе і сваю сям'ю. Я ўзіраюся ў палотны Шагала, імкнуся перанесьціся ў той час, а напамяць прыходзяць знаёмыя радкі іншага паэта... "Божа! Гэткі сьвет тут моц стварыла твая! Дзе -ж мой дом? Дзе-ж мой кут? Дзе айчызна мая?"

Янка Купала і Марк Шагал... Ці не занадта рызыкоўнае супастаўленьне? Думаецца, што двух мастацкіх геніяў сваіх народаў у адзін і той-жа гістарычны час (Купала роўна на пяць гадоў без двух дзён старэйшы за Шагала), на адной і той-жа зямлі, сярод вельмі блізкага этнасу, у адных і тых-жа геапалітычных умовах маглі хваляваць і непакоіць адны і тыя-ж, прынамсі, даволі блізкія трывогі, надзеі, думкі, мары.

На працытаванае вышэй пытаньне паспрабаваў даць адказ вялікі песьняр зямлі беларускай: "Мой дом — прывольле зьвёзднай далі, арламі мераны абшар..." А ці не да такога-ж неабсяжнага вечнага прытулку імкнецца ў сваіх карцінах Марк Шагал, добра разумеючы, што няма шчасьця тут, на зямлі гэтым простым людзям — аратым, шаўцам, рамізьнікам, скрыпачам ды проста звычайным закаханым... "А мы, як цені з таго сьвету, ідзём, ня знаючы куды..." Менавіта ў Віцебску піша Шагал сваю славутую сэрыю блакітных, ружовых, зялёных "Палюбоўнікаў", глядзячы на якіх нельга стрымаць хваляваньне і прыгадаць: "Пані ты была, я — пан... Посьле зноў расьцьвіў курган..." А можа шагалаўскія закаханыя лятуць над Віцебскам таму, што імкнуцца туды-ж, куды і лірычны герой Купалы: "К зорам, што так над табой разгараюцца льсьніста ў мільённай на небе сяўбе, рвіся, хай думы прабіць цьму стараюцца: там херувімы спаткаюць цябе!"

Пераадолець зямное прыцягненьне, "цярпеньне балеснае", вырваць "з ціны жыцьцёвай душу", пазбавіцца "путаў зямной глушы" — хіба не да гэтага аднолькава імкнуцца пэрсанажы вялікага мастака і вялікага паэта? На многіх палотнах Марка Шагала дарога ў неба пракладзена праз Віцебск і Лёзна. А Янка Купала так выказвае сваё запаветнае жаданьне: "Млечны Шлях, што нябесны дзядзінец засьцілае, я-б зьняў на зямлю і масьціў-бы ім новы гасьцінец цераз родную ніву сваю..." Незвычайнае супадзеньне ў паэта і мастака сімвалаў "агністага сонца", якое хочацца ўзяць у рукі, што дадзена было толькі ім абодвум. А над усім гэтым — матыў адвечнага трагізму чалавечага існаваньня на зямлі: нараджэньне, жыцьцё, старасьць, сьмерць... Янка Купала ня вытрымаў цяжару і жорсткасьці камуністычнага таталітарнага рэжыму і скончыў жыцьцё самагубствам. Прадчуваючы жахлівы зыход, Марк Шагал усё прадбачыў і папярэдзіў чалавецтва пра магчымы Халакост (аб гэтым сьведчыць яго карціна "Белае расьпяцьце", што знаходзіцца ў Чыкагскім Арт-Інстытуце, напісаная ў 1938 годзе, ды іншыя творы). Калі над сьветам навіснуў фашызм, Шагала ўратавала Амэрыка. Тут ён знайшоў прытулак і сяброў.

Магчыма, мае развагі даволі суб'ектыўныя. І ўсё-ж лічу, што такое супастаўленьне неабходнае, каб лепей зразумець славутых мастакоў, спасьцігнуць таямніцы іх натхнёнай творчасьці. Нельга забываць і пра тое, што Марк Шагал быў ня толькі добры мастак, але і цудоўны паэт. "Браты замоўклыя, бегчы ня ўзбоч, а ўпоплеч да зор я хачу якраз, і сьветлай стане цёмная ноч..." Гэта я цытую ўжо самога Шагала; ці ня праўда — вобразная структура даволі блізкая да згаданага вышэй?

У творчасьці і Янкі Купалы і Марка Шагала арганічна зьліваліся рэалізм і мадэрн, побыт і абстракцыя, дакладнасьць і стыхія, узьлёт духу і буянства рэчаў і цела, эмацыянальнасьць і разважлівасьць, думка і інтуіцыя. Яны сталі своеасаблівымі пачынальнікамі сімвалізму ў сваіх культурах у эўрапейскім кантэксьце, — гэты мэтад даваў спрыяльныя магчымасьці адысьці ад клясычных традыцыяў, што вычарпалі ўжо сябе, і весьці пошук новых формаў мастацкай выразнасьці. Зьвяртаю ўвагу на тое, што пра Купалу-мадэрніста, заснавальніка стылістыкі абсурду ў эўрапейскай паэзіі і драматургіі, яшчэ не сказана як сьлед у літаратуразнаўстве. Хіба не з "Тутэйшых" пачыналася тая плынь у сусьветнай літаратуры, якую назавуць абсурдам і гратэскам і якая потым дасьць у сваіх літаратурах Ianэскy і Бекета, Брэхта і Куліша, Эрдмана і Платонава? Але-ж у савецкі час пра ўсё гэта нельга было гаварыць.

Як нельга было ўспамінаць Марка Шагала на яго радзіме. Па ўказцы ідэялягічнай службы беларускага ЦК нават згадка пра Шагала і створаную ім Віцебскую мастакоўскую школу выкрэсьлівалася з падручнікаў, даведнікаў, энцыкляпедыяў. (Аддзел культуры ЦК камуністычнай партыі Беларусі ўзначальваў тады Іван Антановіч, цяперашні лукашэнкаўскі міністр замежных спраў). Асабліва стараўся зьняважыць Шагала вядомы антысэміт і антыбеларус Уладзімір Бягун. У сваіх артыкулах у часопісе "Политический собеседник" ён спрабаваў давесьці, што Шагал — "незразумелы народу мастак-антысаветчык, які цалкам прадаўся сіяністам-рэакцыянерам". Бегуна падтрымлівалі такія "важкія" аўтарытэты, як мастак-акадэмік Міхал Савіцкі, дактары навук У. Боўш, У. Няфёд, А. Малашка ды іншыя.

Нялёгкую барацьбу за прызнаньне Марка Шагала, за вяртаньне яго імя на радзіму, за ўшанаваньне яго памяці распачаў весьці Шагалаўскі камітэт на чале з паэтам Давідам Сімановічам, які жыве ў Віцебску. Вялізную ролю ў дзейнасьці гэтага камітэту сыгралі вядомыя беларускія пісьменьнікі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін. Дзякуючы неймаверным шматгадовым намаганьням, толькі ва ўмовах суверэннай Беларусі ўдалося адкрыць музэйную экспазыцыю ў адным пакоі дому на былой Пакроўскай вуліцы ў Віцебску, дзе жыў Марк Шагал. 5 ліпеня 1992 году блізка гэтага дому быў адкрыты помнік мастаку (скульптар Аляксандр Гвозьдзікаў).

І толькі сёлета, нарэшце, у Менску і Віцебску, пры садзейнічаньні ўрада Францыі, адбываецца першая на радзіме выстава твораў Марка Шагала з калекцыі музэя ў Ніццы і прыватных збораў з Швайцарыі і Францыі.

Праз многія гады мастак вярнуўся на сваю радзіму, у свой, так натхнёна апеты ім Віцебск. На тую радзіму, дзе сёньня, на жаль, паскораны ўсе антынацыянальныя асыміляцыйныя працэсы і дзе, як здаецца, надзвычай актуальна прагучаць наступныя словы Марка Шагала, аднаго з найвыдатнейшых сыноў зямлі беларускай: "Ключы ад гармоніі і шчасьця трэба шукаць у нас саміх. Мы трымаем іх ва ўласных руках. Усё, што я зрабіў, — толькі спроба кінуць выклік жорсткасьці. Мастацтва, якім я займаюся з дзяцінства, навучыла мяне таму, што чалавек здольны любіць, што любоў можа ўратаваць яго."

Ванкарэм Нікіфаровіч.
Чыкага.

# ВЕЛЬМІ МОЦНЫ УРАГАН НАД БЕЛАРУСЬСЮ

23 чэрвеня гэтага году над Беларусьсю бушаваў вялікае сілы гураган. Асабліва моцна пацярпелі Менская і Брэсцкая вобласьці.

На Брэсчыне гураган прайшоў над 7-мі раёнамі: Ганцавіцкім, Пінскім, Луненецкім, Драгічынскім, Івацэвічаскім, Іванаўскім і Ляхавіцкім. Моцна пашкоджаны электра-праводкі, стрэхі дамоў і калгасныя пабудовы. Пашкоджана да 30% пасяўное плошчы. Былі страты ў людзях ды шмат параненых.

У Менскай вобласьці найбольш пацярпелі 9 раёнаў: Менскі, Стаўпецкі, Капыльскі, Нясьвіжскі, Узьдзенскі, Клецкі ды інш. Таксама пацярпелі гарады Барысаў і Жодзіна. Былі страты ў людзях і шмат параненых. Пазрываныя электра-праводкі, пазрываныя стрэхі хатаў і пацярпелі зьнішчэньне шматлікія аб'екты сельска-гаспадарчае прамысловасьці ды інш. На некалькіх напрамках быў спынены чыгуначны транспарт. Агульныя страты нанесеныя ураганам могуць перавысіць 300 мільярдаў рублёў. Цяпер вядзецца праца па дапамозе пацярпелым і падліку нанесеных стратаў.

Дурная савецкая меліярацыя Палесься ды іншых частак Беларусі значна зьмяніла клімат краіны, і падобныя стыхіі могуць быць цяпер частымі.

Міжволі насоўваецца пытаньне: за што карае Бог абалваненае, калгасна-лукашэнкаўскае насельніцтва?.

## ЯК НАС АБДЗІРАЕ РАСІЯ, ЯКАЯ ШМАТ ГАВОРЫЦЬ ПРА ДРУЖБУ

Выступаючы на рэспубліканскім сэмінары па кормавытворчасьці, які адбыўся днямі ў Капыльскім раёне, міністр сельскай гаспадаркі і харчаваньня Васіль Лявонаў прывёў красамоўныя факты. Ён, у прыватнасьці, сказаў, што расейцы згодны прадставіць нам камбайны "Дон" пад крэдыт у 20 працэнтаў гадавых у валюце. На думку нашага міністра, гэта сапраўдная абдзіралаўка. На Захадзе можна набыць падобныя машыны пад 7-8 працэнтаў гадавых. "Вось вам і дружба", — усхваляванa гаварыў міністр.

Яўген Таўгень

У верасьні 1991-га году
бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня
ізноў сталі дзяржаўнымі знакамі
незалежнай Беларусі.
Шануйма-ж іх!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Вядома, рэалізаваць планы вяртання да вялікай імперыі ў згодзе з сучаснымі агульнасусветнымі тэндэнцыямі немагчыма. Рабіць такое мае сэнс толькі ў межах старой ідэалогіі, старых падыходаў і найлепш са старымі кадрамі, апрабаванымі на вернасць старой сістэме і пазбаўленымі такой "дробязі", як паняцце здрады нацыі і Радзіме. А таму на працягу амаль ужо трох гадоў ідзе мэтанакіраванае ўсталяванне спецыяльнага рэжыму (глядзіце вышэй азначэнне калоніі). Хіба мог "бацька" змірыцца з непрыгладжаным моцнай рукой Вярхоўным Саветам 13-га склікання і з цывілізаванай Канстытуцыяй? Усё, што стаяла на шляху аўтарытарных ініцыятыў, падлягала абструкцыі. Ды вось незадача! Адбыўся сур'ёзны і бескампрамісны падзел беларускага грамадства па лініі маралі, што спарадзіла дзейсную палітычную сітуацыю для скасавання амаральнага рэжыму. Імпічмэнт прэзідэнту выглядаў зусім рэальным. Аднак нацыя зноў не дацягнула. Перашкодзіла правінцыяльная ментальнасць палітычнай эліты. Бясконцыя паездкі па дапамогу ў метраполію (навыперадкі з прэзідэнцкімі ваякамі) і, **неўсвядомленая нацыянальная непаўнавартасць** і сталая арыентацыя на думку Масквы прывялі да паралічу ўласнабеларускай пазіцыі, калі ў ноч на 22 лістапада "барин приехал мирить холопов".

У працяг роздуму над той жа тэмай давядзецца перакінуць мосцік у нашы дні і звярнуцца да свежаспечанай ініцыятывы нашых дэмакратаў — стварэння аля-расійскага руху "ЯБЛоко" ў Беларусі. У сувязі з гэтым, шаноўныя чытачы, велікадушна дазвольце задаць вам пытанне для асэнсавання: ці спрыяе гэта пазбаўленню ад правінцыяльнасці і мястэчковасці ў беларускай палітыцы? Пры адказе на яго ўлічыце, калі ласка, што арганізатары руху рэзка адмаўляюць нацыянальна-дэмакратычны характар сваёй дзейнасці.

...Сумна, але як бы мы ні разумнічалі ў сваіх паліталагічных ацэнках, як бы ні ёрнічалі, як бы ні саромеліся свайго неганаровага стану, дзеля аб'ектыўнасці нам не пазбегнуць канстатацыі: **Беларусь застаецца апошняй калоніяй у Еўропе.** І тое, што для іншых народаў пройдзены этап, для нас усё яшчэ з'яўляецца актуальным: **патрэбен шырокі антыкаланіяльны рух.**

## Ці народзіцца суверэнітэт?

Як вядома, усякі аналіз мае сэнс толькі тады, калі мяркуецца завяршыць яго сінтэзам. Для лагічнага афармлення пэўных прагнозаў і прапановы вострa неабходна праананалізаваць яшчэ адно важнае паняцце. Датычыць гэта *суверэнітэту Беларусі.* Названую палітычную катэгорыю не абыходзіць апошнім часам і прэзідэнт. А між тым **рэальнага суверэнітэту мы яшчэ не мелі.**

Паводле сваёй сутнасці суверэнітэт дзяржавы — гэта вяршэнства *уласнадзяржаўных* інтарэсаў ва ўнутраных і вонкавых справах. Ці ж было гэта ў нас? Што датычыць астатніх постсавецкіх дзяржаў, то казаць сёння пра наяўнасць суверэнітэту ў поўным аб'ёме, бадай, мае сэнс толькі ў дачыненні да Расіі і краін Балтыі. Астатнія набліжаюцца да яго ў сваім тэмпе, перамагаючы імперскія памкненні і каланіяльную ментальнасць. Аддаляецца толькі Беларусь.

Наш суверэнітэт быў дэклараваны разам з утварэннем Рэспублікі Беларусь, і ў час найвышэйшага ўздыму мы ішлі да яго. Мы мелі рэальны шанц матэрыялізаваць гэта паняцце. Да той пары, пакуль да ўлады не прыйшоў Аляксандр Рыгоравіч. З гэтага моманту ён здзейсніў паварот на 180 градусаў, і Беларусь пайшла прэч ад сваёй перспектывы. Казаць пра вяршэнства ўласнабеларускіх інтарэсаў цяпер не даводзіцца практычна ні ў адной сферы.

Той лямант, які падымалі і падымаюць вось ужо шэсць гадоў вялікадзяржаўніцкія сілы наконт вінаватасці ва ўсіх нашых цяжкасцях менавіта беларускага суверэнітэту, ёсць не што іншае, як нахабны ідэалагічны падман. Тая ж актыўная моўная эксплуатацыя гэтага паняцця, якую мы назіраем у прэзідэнта і яго ідэалагічнага атачэння, ёсць яшчэ большая палітычная хітрасць. Мяркую, што разлічана яна на тое, каб забіць двух зайцоў. Калі інкарпарацыя дзеля расійскай кароны будзе выглядаць рэальнай, то клятвы наконт суверэнітэту неабходны, каб адурманіць грамадства, адвесці яго ўбок ад аналізу сутнасці з'явы, пазбавіць актыўнага супраціўлення. Канстатаваць, але рабіць процілеглае. **Прыспаць і знішчыць.** І ў час, калі мы не зможам прачнуцца, над намі прагучыць *"Амінь дзяржаве і яе суверэнітэту!".* Калі ж улада ў аб'яднанай дзяржаве "не выгарыць", то за суверэнітэт можна схавацца. Ва ўсякім разе, першая асоба краіны кіруецца выключна мэтамі свайго палітычнага даўгалецця.

Імкнучыся ўсё ж убачыць існасць, мы вымушаны казаць сёння не пра магчымую страту суверэнітэту (бо нельга страціць тое, чаго няма), а пра магчымую страту нашай дзяржаўнасці. А вось гэтага нельга дапусціць ні ў якім разе. Пры ўмове ж захавання дзяржавы замена яе каланіяльнай сутнасці на суверэнную застанецца нашай мэтай.

Нягледзячы на магутную сілу імперыі, уратаванне дзяржаўнасці залежыць толькі ад грамадзян Беларусі. Пакуль што тутэйшы ініцыятар аб'яднання сам запаволіў гэты працэс. Як бы цынічна ні гучала, ад яго ініцыятыў нас выратавала яго ж дыктатура, якая выявілася занадта выразна і занадта небяспечна. Праўда, тым, што дыктатарскія метады кіравання сталі відавочныя і напалохалі нават нашу суседку, мы абавязаны найперш бескампраміснаму супраціўленню ўсіх тых, хто стаў на бок дэмакратыі. Што да Расіі, то спрацаваў інстынкт самазахавання, і ў пэўны гістарычны мікрамомант яна перамагла свой імперскі сверб. Але ён не знік, бо з'яўляецца **галоўнай складовай часткай расійскай нацыянальнай ідэі.** Што, між іншым, ёсць як права і як праблема.

Афіцыйная Расія абсалютна аднaзначна паказала, што ніякія ажыццяўленні старой сістэмы метадам Лукашэнкі на яе прасторах дапушчаны не будуць. Стараючыся выглядаць прывабнай у вачах цывілізаванага свету, яна выразна сфармулявала сваю пазіцыю: з Беларуссю, але без новага беларускага парадку. Хітра адмятаючы амаральнасць, цнатліва дадала: і толькі на аснове волі двух народаў. Болей за тое, падобна, што ў імя сваіх стратэгічных памкненняў Масква даспела, каб паабяцаць цывілізаванаму свету пазбаўленне ад беларускага галаўнога болю. Ці не разам з марыянетачнай галавою?

Усё гэта вымушае зрабіць выснову, што ўлада беларускага інтэгратара над калоніяй не прывядзе да жаданай улады над імперыяй. І што тады? Ад сілы (калі будзе паслухмяны!) застанецца губернатарам? І то на нейкі час?

Нам усім не грэх памятаць крылатыя выразы, у прыватнасці: *бойся данайцаў, дары што прыносяць.* Не дрэнна было б ведаць і тое, што прыляцеў гэты выраз праз стагоддзі пасля вядомага траянскага каня. Такім траянскім канём для гісторыка Аляксандра Рыгоравіча асабіста паварочваецца ідэя інтэграцыі (канфедэрацыі, федэрацыі, інкарпарацыі і г.д.). Сітуацыя сведчыць, што было б сапраўды больш карысна даведаць гістарычнай лініі, звязанай з Сапегам. І больш пачэсна.

У святле новых рэалій узнікаюць пытанні. Ці не з'яўляецца для А.Лукашэнкі адзіным адэкватным выхадам рэзкі кідок у суверэнітэт Беларусі? Ці не выгадна яму абаперціся на масавыя антыаб'ядначыя акцыі і сысці з чужога расійскага поля? Калі ён абярэ такую лінію паводзін, то як паводзіць сябе дэмакратам?

Беручы пад увагу ўсе гэтыя палітычныя гульні, трэба добра ўсведамляць, што ніякія нашы мутацыі не прывядуць да трохгаловага арла. Гербам усякага саюза Беларусі з Расіяй застанецца двухгаловы расійскі арол. І ў прамым і ў пераносным сэнсе.

Па маім перакананні, мы захаваем сваю незалежнасць толькі ў тым выпадку, калі зможам паказаць Расіі (і ўсяму свету) **сваю здольнасць да нацыянальнага супраціўлення,** менавіта, зможам давесці: а) што беларусы ніколі не пагодзяцца быць толькі часткай імперыі; б) што існуюць рэальныя сілы для адэкватнага супраціўлення інкарпарацыі; в) што Расіі больш выгадна мець цывілізаваныя зносіны з суверэннай Беларуссю, чым разам з яе далучэннем прыйсці да свайго распаду. Іншымі словамі, гэта азначае, што нашы нацыянальныя інтарэсы павінны быць цывілізавана размежаваны з расійскімі.

Мы маем бясспрэчную магчымасць захавання і развіцця дзяржаўнасці Беларусі, бо вакол гэтага аб'ядналіся шырокія пласты грамадства. Важна цяпер пазбавіцца ад памылак. На мой погляд, гэта тры асноўныя. Найперш адстойванне той пазіцыі, што толькі з дапамогай Расіі мы зможам вырашыць свае праблемы, толькі ў саюзе з ёю мы паскорым эканамічныя рэформы і пазбавімся дыктатуры. Сюды ж трэба дадаць разважанні розных беларускіх палітыкаў і партый наконт таго, як лепш інтэгравацца і з чаго пачынаць. А між тым патрэбна ўбачыць толькі дзве рэчы: *па-першае,* тое, што **калонія ні ў якой форме не можа інтэгравацца з імперыяй** (яна можа быць толькі цалкам далучанай); *па-другое,* **Расія ўжо адкінула гульню ў інтэграцыйную лексіку і ясна кажа пра плаўны пераход да адной дзяржавы.** З гэтай прычыны актыўнае планаванне інтэграцыі ў дадзены перыяд штурхае да страты нашай незалежнасці. І ўвогуле, інтэгравацца на роўных па тыпу Еўропы (на што ідзе хітры вал спасылак) мы зможам толькі пасля таго, як "абарвем павадок" і дасягнем свайго суверэнітэту. Важна цяпер, каб і асобныя беларускія палітыкі пазбегнулі спакусы абаперціся на расійскія сілы пры рэалізацыі сваіх палітычных амбіцый (што і ёсць для іх праверка на любоў да Радзімы). Інакш гэта будзе азначаць, што Расія і надалей можа спадзявацца на далучэнне нашай краіны.

Другая памылка, якой нельга дапускаць, — гэта канфрантацыя партый, што прытрымліваюцца дзяржаўніцкіх пазіцый. А калі не канфрантацыя, то адсутнасць іх супрацоўніцтва або падзел на палітычны "плебс" (для вулічных акцый) і палітычных "тэарэтыкаў у белых пальчатках". Цяпер усёй талакой трэба зберагчы **наш дом — Беларусь.** І рознымі дапушчальнымі метадамі. А калі так, то неабходна пільна адсочваць тыя моманты, што разбураюць перспектыву такой супольнасці. А імі могуць надарыцца ці партыйная манаполія на пэўную ідэю, ці тэарэтычны пошук агульнанацыянальнага лідэра, ці стварэнне паралельных уладных структур (для дзяржавы, якой можа не быць), ці... Чаго не выкіне амбітная палітычная фантазія або не падкінуць спецы-актывісты!

І, нарэшце, трэцяй памылкай можа стаць супрацоўніцтва дэмакратычных сілаў з афіцыйнай уладай на ўмовах цяперашняга "парадку". Амаральнае і маральнае разам не змогуць выйсці на стваральную дзейнасць. Ды і ад таго, што воўк надзене абадраную з авечкі шкуру, ён не перастае быць воўкам. Трэба даць магчымасць рэжыму вычарпаць сябе да канца. Інакш гніенне ў грамадстве працягнецца доўга.

Ідэалам палітычных паводзін, як мне бачыцца, можа быць дзейнасць прыбалтыйскіх рэспублік у перыяд распаду Саюза — іх шлях выхаду з каланіяльнага стану. Тэзіс, які ўжо выклікае палітычную алергію, што ў нас прынцыпова не такая сітуацыя, як у Прыбалтыцы, не павінен засмучаць. Бясспрэчна, яна іншая. Але дастаткова пры гэтым успомніць, што колькасць насельніцтва Эстоніі меней за колькасць жыхароў Мінска, а этнічныя латышы на час атрымання незалежнасці складалі каля 55% ад усіх грамадзян Латвіі. Разам жа насельніцтва гэтых трох рэспублік далёка не дацягвае да колькасці жыхароў Беларусі. Поспех у будаванні дзяржаўнасці гэтых краін быў вызначаны падзеннем іх палітычнай эліты, скансалідаванай у адзінае цэлае (успомнім апошні Вярхоўны Савет СССР).

Пры гэтым прыярытэты балтыйскіх палітыкаў былі жорстка вызначаны: па-першае, **свабода Радзімы,** па-другое, **свабода Радзімы,** па-трэцяе, **свабода Радзімы,** па-чацвёртае, пятае, шостае, будаванне шчаслівай краіны. І толькі дзесьці па-за шасцёркай лідэраў праглядаліся асабістыя амбіцыі.

Хоць найлепшы час для рэалізацыі нашых перспектыў страчаны, аднак у значнай ступені сітуацыя ў Беларусі таксама залежыць ад паводзін нацыянальнай эліты, якая існуе сёння як рэальная з'ява. Пры гэтым важна, што яна мае магчымасці быць разам з дастаткова шырокімі масамі народа. Нагадаем, што толькі сталых прыхільнікаў БНФ у нас каля аднаго мільёна (амаль насельніцтва Эстоніі). Сюды ж трэба дадаць фактычную большасць моладзі. Прыхільнікам незалежнасці і дэмакратыі застаецца толькі паверыць у свае сілы і пастарацца развязаць праблемы цывілізавана, без крыві. Хаця ў дачыненні да апошняга няма ўпэўненасці, што мы зможам гэтага пазбегнуць. Ад слоў прэзідэнта, што ў Беларусі ніколі не будзе крывавых падзей, логіка гістарычнага працэсу не залежыць. А яна такая, што пасля знішчэння парламенцкай дэмакратыі непазбежна настаў перыяд вулічнай дэмакратыі. Пазбаўленне ж магчымасці мірных дэманстрацый, мітынгаў і шэсцяў лагічна пацягне за сабой увакходжанне ў больш радыкальны перыяд. Гэтага страшэнна не хочацца, але ў найбольшай ступені тое залежыць ад канкрэтных дзеянняў афіцыйнай улады. Ва ўсякім выпадку, як бы апошняя ні макіяжыла сітуацыю, нам усім відавочна, што Беларусь існуе ва ўмовах самай нестабільнай палітычнай сітуацыі за ўсю яе новую гісторыю.

Мне зразумелыя псіхалагічныя прычыны неўсведамлення афіцыёзам сур'ёзнасці нашага становішча. Пры ўладзе знаходзяцца людзі, якія па сваёй прыродзе не ведаюць, што пачуццё Радзімы і яе свабоды можа быць асноўным матывам дзейнасці пэўнай асобы і нават матывацыяй яе існавання. Яны не ў стане адарваць ад "кармушкі" хаця б дзеля маральнасці, а таму ім сапраўды можа быць недаступным для адэкватнага разумення тое, што ўчарашнія міністр, старшыня Вярхоўнага Савета, старшыня Кабінета міністраў, кіраўнік вобласці, галоўны рэдактар газеты, былы партыйны функцыянер высокага рангу, суддзя Канстытуцыйнага суда могуць мець непадкупную і неафіцыйную пазіцыю. Але тым не менш — гэта факт: палітычная эліта заняла сваё месца ў вулічных калонах побач з "простымі" людзьмі. Сёння гэта і яе ніша. Менавіта боязь такога зліцця вымушае ўладу рабіць цяперашні "судовы" ўціск на сваіх былых паплечнікаў, каб застрашыць іх. На самой жа справе відавочна: каб ажывіць татальны страх, трэба зноў прайсці сталінскі перыяд татальных знішчэнняў. Пра гэта можна марыць, планаваць зрабіць і нават казаць, але па розных прычынах такое ў сучасным свеце ўжо немагчыма. Фізічнае ж знішчэнне асобных патрыётаў зробіць з іх нацыянальных герояў і з'яднае нацыю.

Беларускае нацыянальнае супраціўленне існуе і развіваецца як рэальнасць. Прычым у наяўнасці пачаткі фактычна ўсіх інстытутаў улады і сацыяльных структур новай дзяржавы: **беларускага** парламента, **беларускага** кабінета міністраў, **беларускіх** партый, **беларускага** афіцэрства, **беларускай** адукацыі, **беларускай** грамадзянскай супольнасці. І ёсць надзея, што ўсё гэта прыйдзе да жыцця ў адпаведнасці з нацыянальнымі інтарэсамі і незалежна ад нацыянальнасці іх носьбітаў.

...Тая найвышэйшая сіла, якую мы называем Богам, выпрабоўвае нас на права заставацца свабоднай нацыяй. Гісторыя ж перавярнула свой пясочны гадзіннік і пачала адлік часу. Мільёны пясчынак, нягледзячы на перашкоду, непазбежна перацякуць у патрэбным кірунку. Мільёнам грамадзян Беларусі трэба паспець скансалідавацца і зрабіць разам тыя захады, якія **непазбежна прывядуць да суверэннай Беларусі.** Дзеля гэтага ўсе мы перасякліся ў часе і прасторы менавіта на гэтай Зямлі.

## Беларускі дыпламат папрасіў палітычнага прытулку

**Як паведамілі французскія сродкі масавай інфармацыі, беларускі дыпламат Уладзімір Палупанаў папрасіў палітычнага прытулку ў Францыі.**

У французскай амбасадзе ў Мінску, а таксама ў прэс-службе беларускага знешнепалітычнага ведамства сказалі, што афіцыйнага пацверджання гэтага факта яшчэ няма.

Уладзімір Палупанаў, былы другі сакратар беларускага пасольства ў Парыжы, раней з'яўляўся сакратаром міністра замежных спраў Беларусі. Ён скончыў мінскі інстытут замежных моў, нейкі час працаваў перакладчыкам на Мадагаскары, потым у аддзеле народнай адукацыі Заслаўскага гарвыканкама. Родам з Любанскага раёна, мае двaіх дзяцей. Уладзімір Палупанаў уступіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду і вылучаўся кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Быў адным з арганізатараў першага з'езду беларусаў свету ў Мінску ў 1993 г.

У інтэрв'ю *Radio France International* Уладзімір Палупанаў сказаў, што «*апошнім штуршком для просьбы палітычнага прытулку стала падпісанне дамовы аб аб'яднанні Беларусі і Расіі. Я выбраў свабоду і хачу адкрыта працягваць сваю дзейнасць у Францыі*», — заявіў У.Палупанаў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Што можа чакаць беларускі народ ад ідэалагічных імпатэнтаў...

Штатныя прэзідэнцкія прапагандысты сапсавалі тоны паперы, агітуючы народ (а можа, болей сябе) за аб'яднанне. Уся іх агітацыя, аднак, не пасоўваецца далей звыклых стэрэатыпаў накшталт "З бяды трэба выбірацца разам", "Жыць разам лепей, чым паасобку", "Вялікае славянскае брацтва", "Непарушны саюз" і г.д. Што і казаць, стэрэатыпы хлёсткія і хвацкія, але ўсё ж цяжка адкараскацца ад крамольнае думкі, што ўсё тое **было**. І навек вялікае брацтва, і непарушны саюз. І чым скончылася, усім вядома. Прытым без вайны, крывавых катастроф, без ракетных удараў і нават дэманстрацыі бранетэхнікі. (Крывавыя дэманстрацыі адбыліся пазней, ад іх і дагэтуль смуродзяць чэчэнскія руіны.) Узяло і развалілася, як сведчаць людзі, пасля трох выпітых чарак. На працягу паўгадзіны. На лясным лецішчы ў Белавежскай пушчы.



А цяпер вось колькі ўжо год вялізнымі высілкамі апантаных інтэгратараў, высакалобых палітолагаў, масы актывістаў ды патрыётаў усіх колераў і адценняў цяжка зляпіць хоць колькі-небудзь прыстойны альянс двух славянскіх, "в доску братских" народаў. У чым тут справа? Чаму не склейваецца?

Ды вельмі проста — змянілася структура абедзвюх палавін, іхні хімічны склад зрабіўся несумяшчальным. І ўсё таму, што ў новай гістарычнай рэальнасці аслабела традыцыйнае клеявое рэчыва — **страх.** Народы, якія на працягу дзесяцігоддзяў стагналі пад ярмом таталітарызму, пры першым зручным выпадку інстынктыўна рванулся прэч, яшчэ не ўяўляючы, што іх чакае на волі. Чакала, як аказалася, не шмат радасці: адсутнічаў патрэбны вопыт, што, зрэшты, само па сабе не смяртэльна. Але не было ідэалаў (калі не лічыць за ідэал танную каўбасу), здольных кансалідаваць нацыю, натхніць яе на складаную і страхавітую барацьбу за будучыню. Людзі прадаўжалі жыць трудным сённяшнім днём, змагаючыся не за ідэі — за кавалак хлеба ды бутэльку гарэлкі. Адраджэнскія ідэі БНФ, беззаганныя ў сваёй аснове, не сталі агульнанацыянальным здабыткам, не захапілі масы, а хіба што паслужылі ім у нацыянальна-асветніцкіх мэтах. Зноў жа вельмі хутка высветлілася, што і аб'ядноўваць, па сутнасці, няма каго, адсутнічаў аб'ект для аб'яднання. За папярэднія дзесяцігоддзі высілкамі партыі ды КДБ нацыя і без таго ператварылася ў бясправную, маўклівую масу саўкоў, з якое пануючая сіла ляпіла, што хацела. Для надання ёй нейкага нацыянальнага падабенства недастаткова было прапагандысцкіх высілак БНФ, патрабавалася псіхалагічная перабудова, рашучае абуджэнне ад векавога сну. Але тое вымагала часу, а часу якраз і не было. Гэтым і пакарысталіся камуністычныя сілы, якія хуценька акрыялі пасля вядомага пасляпутчаўскага спалоху і дружна рынулі ў наступ. На ідэалагічным полі ім, бадай, нішто не супрацьстаяла. Некалі папулярная ў Беларусі нацыянал-дэмакратычная ідэя, як аказалася, болей палохала, чым вабіла, у народзе жыў даўні ўедлівы страх рэпрэсіяў за нацыяналізм. Іншыя ж ідэі, пераважна ліберальна-індывідуалісцкага кшталту, мала прываблівалі ўжо хоць бы з прычыны іх надта нянаскага, "заморскага" паходжання і не знаходзілі глебы для ўкаранення.

Між тым існаваў пераканаўчы прыклад палітычнай культуры блізкага Захаду, выпрацаваны ў выніку няпростага гістарычнага існавання ў выглядзе ўніверсальных каштоўнасцяў-імператываў: Рынку, Дэмакратыі, Правоў чалавека. Суверэннага існавання, нарэшце. Чаму б не запазычыць іх, калі не хапіла розуму ці здольнасцяў стварыць лепшыя?

Дык жа не, не прышчэпліваецца ў нас амаль нічога лепшага з таго, без чаго не абыходзіцца Захад. Ды і ўвесь свет таксама. Быццам спрадвечны залом заламаны на ніве народа, чыя свядомасць гэтак збэшчана векавой дэспатыяй. Што мы за людзі, калі і дагэтуль "што сказаць самім сабе і людзям не ведаем, не можам, хоць і час" (Я.Купала)? Што нас чакае ў любым альянсе, апроч бясследнага растварэння, непазбежнай асіміляцыі ў болей палітычным, пасіянарным асяродку? У сэнсе матэрыяльным могуць прадбачыцца пэўныя "выгоды". (усё ж энерганосьбіты, гандлёвая прастора), але ж столькі стагоддзяў еўрапейскай гісторыі, старажытная культура, нарэшце, дзівосная крынічная мова... І ўсё насмарку, на паступовае, марнае знікненне.

На цвярозы розум, дык перш чым уступіць у які-небудзь, хай сабе самы выгодны саюз, кожны народ павінен прайсці свой, гістарычна прызначаны адрэзак шляху, перарасці хібы шматгадовага зла, выкараніць у сабе раба, накапіць патрэбны маральны набытак, пазнаць калі не практыку, дык хоць бы патрэбу ў раўнапраўным дэмакратычным існаванні. У саюзе часу на тое не будзе, як можа, не будзе і патрэбы. Аб'яднанне павінна разглядацца як стратэгічная **мэта**, а не які-небудзь спекулятыўны сродак, паратоўчае выйсце з авантурнай палітыкі. Менавіта пра тое сведчыць палітычны вопыт Еўропы XX стагоддзя, здабыты з практыкі найперш яе нацыянал-дэмакратызму. Сацыял-дэмакратызму таксама.

Ужо стала відавочна, што Беларусь забрыла ў тупік, у нерат, з якога немаведама як і куды выбірацца. Салодкія размовы аб "шматвектарнасці, збалансаванасці" яе знешняй палітыкі скончыліся на справе глухой ізаляцыяй з Захаду ды катастрафічнай пагрозай з Усходу. Мабыць, тут справа не ў дыпламатычных высілках, патрэбна гарантыя правоў чалавека, імкненне да сапраўды адкрытага грамадства. Што ж тычыць Усходу, дык астранамічная запазычанасць за энерганосьбіты падкладвае пад стасункі з Расіяй жахлівую міну замаруджанага дзеяння. Як бы ні шчыравала наша кіраўніцтва, але ягоная сервільная палітыка ды антынатаўская рыторыка наўрад ці задаволяць "Газпрам" ды "Лукойл", мабыць, рана ці позна яны прыбяруць да сваіх лапаў усе ласыя кавалкі беларускай эканомікі. З чым тады застанецца "суверэнны" прэзідэнт? Хіба што з суверэнным АМАПАМ.

Праблема, аднак, яшчэ і ў тым, што Расія і Беларусь, як паказвае практыка, рухаюцца не толькі з рознымі хуткасцямі, але, падобна, і ў розных накірунках, кожная будучы ўпэўненая, што рухаецца правільна. У такіх абставінах дзіўна слухаць зладжаны хор пра аб'яднанне. Галоўны беларускі інтэгратар даўно ўжо прывучыў нас да дзівосных парадоксаў сваёй палітыкі, але як зразумець ягоную шараду пра тое, што Беларусь і Расія стануць адным цэлым і пры тым кожная ані трошкі не саступіць свае незалежнасці. Па ўсёй верагоднасці, мудрасць задумы палягае ў тым, што Беларусь ў дзяржаўных адносінах цалкам інтэгруецца з Расіяй, у той час як яе прэзідэнт застанецца ранейшым дыктатарам-суверэнам. Надта складаная задума, трэба зазначыць, як бы Лукашэнка ў сваім адмысловым хітраванстве не перахітрыў самога сябе.

Людзям жа з нармальнай логікай, як расійцам, так і беларусам, трэба зразумець, што ўся гэта мітусня з аб'яднаннем — не болей чым палітычная імітацыя ідэалагічных імпатэнтаў, шумавы фіглярскі эфект з мэтай адцягнення ўвагі народаў ад несумненнага факта **банкрутцтва ідэі дэмакратызацыі**, падменны яе банальнай практыкай таталітарызму. Гэта апошняя сапраўды аб'ядноўвае спаяным адзінствам заўжды з'яднаных сістэм-монстраў, якімі з'яўляюцца вядомыя карпарацыі, ВПК, КДБ-ФСБ, войска, традыцыйная імперская ксенафобія і гэткая ж традыцыйная камуна-ідэалогія. Падобна на тое, што непасільную для Расіі дэмакратычную ідэю вырашана канчаткова нейтралізаваць ультраантыдэмакратычнай беларускай прышчэпкай, каб пасля скончыць з дэмакратыяй на ўсёй постсавецкай прасторы. Бо на што ж яшчэ можна разлічваць, ужываючы такую ін'екцыю, якая складаецца з грымучай сумесі эканамічнага калапса і палітычнага камуна-фашызму?

*Народная Воля*

*Васіль БЫКАЎ*

*Слова аб хлебе*

# Ён асвечаны працай нястомнай людзей



**Здаецца, аб хлебе мы ведаем многа, але ж хіба можна аб ім ведаць усё? Першы хлеб быў знойдзены ў грабніцы фараона Рамзеса III-га ў Егіпеце за 1000 гадоў да н.э. Гісторыі вядома, што кіслае цеста ўмелі рабіць у Грэцыі, Рыме, Малой Азіі... У Візантыі дрэнных хлебапёкаў каралі брыццём галавы, розгамі, ставілі да ганебнага слупа.**

**У XVI-XVII стагоддзях пры маскоўскім Крамлі быў пабудаваны спецыяльны «Хлебны палац», які славіўся сваімі хлябамі. У далёкай старажытнасці была вядома цертая груца (абтоўчаны ячмень) на Беларусі. Хлеб тут пяклі спачатку з прэснага цеста, а некалькі пазней — з квашанага.**

**«Без хлеба яда — да парога хада», — гаворыць мудрасць народа. Прытчы аб сейбіце, аб «манне» нябеснай і аб тым як Ісус насыціў пяць тысяч чалавек пяццю хлябамі напамінае нам, якое значэнне мае хлеб у жыцці. У Бібліі мы чытаем і такія словы аб хлебе: «Сие есть тело Мое, которое за вас предается: сие творите в Моё воспоминание».**

**Хлеб — галоўны прадукт харчавання чалавека. Спрадвеку да хлеба адносіліся з вялікай павагай. Існавала шмат звычаяў з выпечкай хлеба: абавязкова памыцца, быць у чыстым адзенні і добрым настроі, гучна не размаўляць і не сварыцца. Хлеб накрывалі ручніком, каб ён не зводзіўся.**

**Многія хатнія гаспадыні на Стаўбцоўшчыне і зараз хлеб расчыняюць на цёплай вадзе з вечара (рашчына-цеста). Найлепшай дзяжой лічыцца тая, якая зроблена з дубовых клепак, бо гэта своеасаблівы каталізатар. Сажаюць хлеб у печ на драўлянай лапаце, падклаўшы пад ніз дубовае ці іншае лісце. Боханы палівалі цёплай вадой, каб не трэскаліся, даглядаючы, каб не падгарэлі. З даўніх часоў з квашанага хлебнага цеста пяклі сачні, скавароднікі, паляніцы, драчоны, а з прэснага — праснакі, плешчанкі, якія бралі ў дарогу ці на поле. Бульбу ў беларусаў называюць другім хлебам, але жытнёвы хлеб — гэта мера ўсіх каштоўнасцей. У маленькім ды кволым на погляд зерні закладзена вялікая моц, якая перадаецца і чалавеку.**

**Шмат паэм, вершаў, казак, карцін ды легенд складзена і напісана аб хлебе. «Есць хлеб — будзе і песня», — так гаворыць народ. З хлебам ішлі у сваты і на вяселле, з ім сустракаюць радзіны і гасцей. Але гэта асобная тэма. Цікава ж, што аб хлебе гавораць вучоныя.**

**Вучоныя-хімікі, аддаючы перавагу не толькі эмоцыям, але і формулам, сведчаць: у хлебе ўтрымліваецца не меней як 210 рэчываў, якія ўздзейнічаюць на яго пажыўнасць і духмянасць. Сярод іх 21 вуглявод, 70 карбанальных злучэнняў, 23 спірты і фенолы, 32 кіслаты, 17 эфіраў, 9 серазмяшчальных злучэнняў... 100 грамаў сталовага хлеба змяшчае ў сабе мноства амінакіслот, вітамінаў і мінеральных рэчываў. Адным словам, звесткі вучоных сведчаць аб тым, што ў хлебе ёсць практычна ўсе неабходнае для жыццядзейнасці чалавека. Пры дапамозе хлеба мы абагачаем свой арганізм бялкамі, вугляводамі і вітамінамі, а таксама солямі кальцыя, фосфара, калія, жалеза і многімі іншымі мікра і макраэлементамі.**

**Вучоныя-медыкі канстатуюць, што дарослы чалавек з'ядае ў дзень ад 300 да 500, а пры цяжкай фізічнай рабоце і ўсе 700 грамаў хлеба. Дзеці або падлеткі — ад 150 да 400 грамаў. Ледзьве не палову ўсёй энергіі і раслінных бялкоў мы бяром непасрэдна ад хлеба. Недарэмна аб гэтым і гаворыцца ў прыказцы: «Не чалавек хлеб носіць, а хлеб чалавека».**

**З любоўю і павагай мы павінны адносіцца да хлебаробскай прафесіі. Каштоўнасць хлеба — гэта паняцце не толькі эканамічнае, маральнае, але і палітычнае.**

**Цікава паслухаць размову на гэтую тэму тых людзей, якія звязаны з хлебаробскай справай?**

***Яўген* КАРПУЦЬ, настаўнік.**

— Што атрымала ў спадчыну Нямеччына ад Маркса?

— Усходняя — камуністычны маніфэст, а Заходняя — капітал.

* * *

Уваскрэс Маркс і настойліва просіць даць яму магчымасьць выступіць па тэлебачаньні. Далі і пачулі:

— Пралетарыі ўсіх краін, выбачайце!

# АБРАД ВЫСЬВЯЧЭНЬНЯ МЕСЦА ПАД НОВУЮ ЦАРКВУ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ БАПЦ у КЛІЎЛЯНДЗЕ, ЗША.

адбыўся ў панядзелак 26 травеня, 1997 году

*11022 Webster Rd. Strongsville, Ohio 44136*



Заходні від пабудовы



Паўночны від пабудовы



**Гэтта публікуем архітэктурныя віды новае царквы, большую за старую пабудову, і здымкі настаяцеля прыходу ды старшыні Парафіяльнай Рады і будаўнічага камітэту.**



Прат. Міхась Страпко
настаяцель прыходу



Жыровіцкая Найсьвяцейшая
Дзева Марыя.



Старая царква.



Спадарыня Оля МкДэрмотт-Дубаневіч
Старшыня Парафіяльнае Рады
і Будаўлянага Камітэту.

*Мікалай СТАТКЕВІЧ:*

## “Сёння мы змагаемся не за сацыяльную дэмакратыю, а за дэмакратыю ўвогуле”

Такія словы прагучалі ў пачатку выступлення лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай Грамады) на II з'ездзе гэтай арганізацыі.

Мікалай Статкевіч большую частку даклада прысвяціў палітычным праблемам нашага грамадства. “Калі беларускія сацыял-дэмакраты пазбаўленыя парламенцкіх метадаў барацьбы, яны са сваімі ідэямі павінны выйсці на вуліцы”, — падкрэсліў старшыня партыі. — Мітынгі, дэманстрацыі, пікеты — вось наша зброя, пры дапамозе якой мы здольныя дасягнуць сваёй мэты. Нам не трэба спыняцца ў той час, калі некаторыя іншыя рухі і партыі чакаюць эканамічнага калапсу".

Мікалай Статкевіч прапанаваў стварыць фонд матэрыяльнай падтрымкі для тых членаў партыі, якія падвергліся адміністрацыйным арыштам і штрафам пасля вядомых падзей у Мінску. Прагучала з яго боку і крытыка ў адрас некаторых вядомых палітыкаў і асобных партый. “Мы не будзем ствараць ценявы кабінет, як гэта зрабілі дзве вядомыя палітычныя арганізацыі”, — адзначыў лідэр БСДП. — Мы маем перад сабой толькі дзве канкрэтныя задачы: дабіцца свабодных парламенцкіх выбараў і на гэтых выбарах перамагчы".

Сваім калегам па партыі Мікалай Статкевіч таксама параіў распрацаваць шэраг сацыяльных праектаў, накіраваных на паляпшэнне жыцця беларускіх грамадзян. Прычым ініцыятыва па складанню такіх праектаў павінна ісці знізу.

У якасці палітычнай заявы II з'езда сацыял-дэмакратычнай партыі да шырокіх колаў грамадскасці была выказана ідэя склікання Канстытуцыйнага сходу, які б меў магчымасць вырашыць наступныя задачы:

1. Аднавіць дзеянне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года.

2. Разгледзець папраўкі да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якія выносілі на рэферэндум 24 лістапада 1996 года прэзідэнт Рэспублікі Беларусь і Прэзідыум Вярхоўнага Савета.

3. Прааналізаваць з улікам паправак да Канстытуцыі Закон аб парламенцкіх выбарах.

4. Прыняць пастанову аб даце правядзення парламенцкіх выбараў і стварэння роўных умоў удзелу ў іх усім кандыдатам.

5. Прыняць пастанову аб Цэнтральнай выбарчай камісіі і стварэнні новых акружных і ўчастковых выбарчых камісій.

6. Стварыць Кантрольны Камітэт для нагляду за ходам парламенцкіх выбараў і за выкананнем усіх рашэнняў Канстытуцыйнага сходу.

Можна сцвярджаць, што некаторыя з прапаноў сацыял-дэмакратычнай партыі сустрэнуць падтрымку з боку дэмакратычных рухаў і партый, але нельга спадзявацца на тое, што гэтыя намаганні з радасцю ўспрыме прэзідэнт А.Лукашэнка.

**Валерый СЯРГЕЕЎ.**

# Генэрал Вітушка

"Наша Ніва"

## *Партызанскімі сьцежкамі*

У 1919 годзе ў Нясьвіжы выбухнула антыбальшавіцкае паўстаньне. Супраць паўстанцаў быў кінуты атрад чэкістаў на чале з Андрэем Пракапчуком. Бальшавікі ўварваліся ў Нясьвіж з двух бакоў і прымусілі беларускіх патрыётаў пакінуць горад. Сам Пракапчук трапіў на адной з вуліц у засаду й застаўся жывы толькі дзякуючы маладой дзяўчыне Надзі, якая папярэдзіла камандзіра чэкістаў пра небясьпеку. Неўзабаве яны пажаніліся й Пракапчук кінуў сваю чэкісцкую службу, пачаў вучыцца. Нейкі час Надзя разам з дачкою Верай жыла ў Чамярах пад Слонімам, у бацькоў мужа, пакуль ён не забраў іх у БССР. У Менску Надзя хутка захварэла й памерла... Неўзабаве па заканчэньні другой сусьветнай вайны прафэсар А.Пракапчук даведаецца, што брат Надзі камандуе беларускімі антыбальшавіцкімі партызанамі, а ягоная дачка прыходзіцца генэралу Вітушку пляменьніцай...

Ужо шосты год зьбіраю я зьвесткі пра генэрала Міхала Вітушку. Пачынаць прыходзілася з нуля, але паступова выяўляліся факты, складалася біяграфія, пісаліся артыкулы, абвяргаліся ілжывыя сьцверджаньні пра ягоную сьмерць у студзені 1945 году. Мінулым летам мне ўдалося натрапіць на некалькі фактаў, якія шчыльна зьвязвалі М.Вітушку са Слонімшчынай. Некаторыя зь іх яшчэ мусяць быць спраўджаныя, а праўдзівасьць іншых не выклікае сумневу. Хацелася б сёньня крыху асьвятліць біяграфію нашага легендарнага генэрала.



На здымку: Генэрал Міхал Вітушка.

Міхал Вітушка нарадзіўся ў 1907 годзе ў Нясьвіжы ў сям'і мясцовага фэльчара Апанаса Вітушкі. Пра яго дзяцінства й юнацтва мне амаль нічога невядома. Пакуль не знайшоў я й пацьверджаньняў вэрсіі, што М.Вітушка меў духоўную асьвету.

Першыя дакладныя зьвесткі пра яго жыцьцё адносяцца да 1930 году, калі ён скончыў Віленскую Беларускую Гімназію. Разам зь ім матуру атрымалі гэткія ведамыя асобы як Вітаўт Тумаш, Лявон Галяк, Анатоль Сакалоў, Хведар Ільляшэвіч (апошні здаваў іспыты экстэрнам). Часопіс "Шлях моладзі" жадаў усім матурыстам "посьпеху ў далейшых навуках і грамадзкай працы на карысьць Бацькаўшчыны Беларусі". Як аказалася, многія з названых у часопісе выпускнікоў гімназіі апраўдалі ўскладзены на іх давер, а некаторыя сталіся сапраўднымі героямі беларускага народу.

У 1930-я гады Вітушка вучыўся ў Варшаве, дзе скончыў палітэхніку. Ён быў актыўным студэнтам, уваходзіў у кіраўніцтва незалежніцкага Аб'яднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацыяў і Асьветнага таварыства беларусаў у Варшаве. Аж да пачатку II сусьветнай вайны Міхал Вітушка жыў і працаваў у польскай сталіцы.

Другая сусьветная вайна спрычынілася да таго, што большасьць маладых беларускіх інтэлігентаў сталі вайскоўцамі. Ідэя стварэньня беларускага войска й адваяваньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі захапіла многіх. Беларускім афіцэрам стаў і Міхал Вітушка, які ствараў нацыянальныя вайсковыя аддзелы ва ўсходняй Беларусі (Смаленшчына, Браншчына, Магілёўшчына). Адначасова ён уваходзіў у кіраўніцтва антыфашысцкай і антыбальшавіцкай Беларускай Незалежніцкай Партыі, заснаванай кіраўніком Нацыянальнага Рэзыстансу а. Вінцэнтам Гадлеўскім. 17 лістапада 1944 г. Міхал Вітушка, атрымаўшы ад ЦК БНП намінацыю генэрала, дэсантуецца зь нямецкага самалёта на Віленшчыне. Ад гэтага часу ён распачынае арганізацыйную працу дзеля стварэньня першага партызанскага злучэньня Беларускай Вызвольнай Арміі ("Чорны Кот"). Гэтая праца была завершаная вясною 1945 году. Такім чынам, пасьля капітуляцыі фашыстоўскай Нямеччыны, у Беларусь мір яшчэ не прыйшоў. Тут толькі пачыналася партызанская вайна за вызваленьне з-пад расейска-бальшавіцкай акупацыі...

# Куток камерцыйнага дзяцінства

Іван ГЕРАСЮК

*Куток шчаслівага дзяцінства ў нашай такой небагатай на шчасце рэспубліцы мне давялося ўбачыць летась у піянерскім лагеры "Зубраня". Сёлетні сезон летняга адпачынку пачаўся зусім з іншых уражанняў.*

Народная газета

Куды можна павесці адпачыць дзяцей сонечным нядзельным днём жыхар сталічнага мікрараёна? У свой двор, дзе, як, напрыклад, у нас у Малінаўцы, толькі раскурочаныя жалезныя арэлі, якімі незнарок дзіця можна і забіць? На школьны стадыён, дзе, акрамя чыгунных лесвіц, нічога няма, дзе нават кольцы з баскетбольных шчытоў павырываны? Добра, калі побач лес, як ва Уручча ці Зялёным Лузе. Але і там спакою не будзе з-за сабачых зграяў і п'яных кампаній, якія сядзяць амаль што пад кожным дрэвам. Да таго ж дзецям хочацца і сапраўдных забаў.

Узяўшы ў кішэню крыху грошай, я паехаў з малымі ў адзіны ў нашай вялікай сталіцы спецыялізаваны дзіцячы парк імя пралетарскага пісьменніка А.М.Горкага. Наколькі я памятаю, нічога адметнага ён для юнага пакалення не пакінуў, акрамя апісання свайго змрочнага дзяцінства. Да таго ж і з Беларуссю "буравесніка рэвалюцыі" звязвала толькі тое, што некалі яго сустракалі на станцыі Негарэлае пасля замежнага адпачынку. Беларускаму дзіцячаму парку больш падыходзіла б імя хоць бы Янкі Маўра, але, як спяваў знакаміты бард, "Жираф большой, ему видней..."

Не так даўно ля цэнтральнага ўвахода ў парк стаяла хоць нейкае падабенства драўлянага карабля. Дзеці бегалі па дашчанай палубе, зазіралі ў капітанскую рубку — усё ж забава. Цяпер на гэтым месцы зроблена невялічкая сцэна з экранам, якую трывала апанавалі ахвочыя да сходак і мітынгаў з любой нагоды камуністы. Для дзяцей у гэтым кутку нібыта іхняга парку месца не засталося.

Ля набярэжнай калыхаўся на вадзе прагулачны катэр, які, аднак, дакладней было б назваць карытам з лаўкамі. Але і такая забава для гарадскіх дзяцей — нечуваная радасць. Якому малому не хочацца праплыць па сапраўднай рэчцы на сапраўдным караблі, асабліва ў нашай, можна сказаць, сухапутнай краіне? З гадзіну я неяк утрымліваў дзяцей на гэтым пятачку, чакаючы, пакуль назбіраецца хоць некалькі пасажыраў. Не дачакаўся. У першы рэйс ад моста да моста катэр адправіўся паўпустым толькі праз тры гадзіны пасля нашага прыходу ў парк. Гэта не дзіўна. Кошт кароценькай рачной прагулкі для дарослых — 20 тысяч рублёў, для дзяцей — удвая менш. Ну, добра. Адзін раз у месяц я магу дазволіць такія затраты на колькіхвіліннае захапленне сваіх дзяцей. А што рабіць майму знаёмаму, у якога малых пяцёра? Калі ён захоча пракаціцца з жонкай і дзецьмі па Свіслачы ад цырка да Траецкага прадмесця і назад, прыйдзецца патраціць ажно 90 тысяч рублёў, і ніякіх ільгот. Часам здаецца, што ў пагоні за гэтымі рублямі арганізатары дзіцячага адпачынку страцілі ўсялякую чалавечнасць. Ну, зменшыце вы цэны хоць бы ўдвая. Усё роўна тая самая колькасць саляркі згарыць, але ж затое наколькі больш дзяцей атрымаюць хоць бы маленькую радасць, якой так не хапае ім у нашым сённяшнім жыцці. Не, пра дзяцей не думаюць, бо нават трап з парэнчамі замяняюць тры ці чатыры пафарбаваныя дошкі, з якіх дзіўна што яшчэ ніхто не зваліўся. Думаюць пра грошы. І толькі.

Ім дарэмна расказваць, што, напрыклад, на Балатоне ў Венгрыі такія караблікі аформлены, як казачныя цацачкі, што кожнаму маленькаму пасажыру любімы дзецьмі Мікі-Маус уручае бясплатна порцыю марожанага, што ён на працягу ўсёй прагулкі расказвае ім пра наваколле і пасля дорыць на памяць маленькія фірменныя кружочкі-эмблемкі. Якой фірме належыць гэта безназоўнае "карыта з лаўкамі", невядома...

Тут жа на набярэжнай мой меншы ледзь не патрапіў пад конскія капыты. Нейкі пачынаючы наезнік, відаць, яшчэ не ўмеў толкам трымаць лейцы ў руках. І хто толькі дадумаўся наладзіць "канкур" на шматлюднай цэнтральнай алеі дзіцячага парку, дзе гуляюць мамы з немаўлятамі? Няўжо нельга знайсці зацішнейшы куток? Але камерсантам без розніцы, дзе зарабляць. Думаюць не пра дзяцей. Думаюць пра грошы. І не толькі на сена коням.

На ўсім працягу цэнтральнай алеі, як, дарэчы, і ва ўсім парку, не знайшлося ніводнага кафэ ці нават кіёска, дзе дзеці змаглі б напіцца соку. Ужо, памойму, трэці год свеціць выбітымі шыбамі-сценамі нейкая круглая будыніна, дзе раней размяшчалася нешта падобнае. Цяпер гэта месца служыць для патаемнага распіцця прынесенай з сабою гарэлкі. Далей на дзвярах іншага кафэ красавалася фанерка з надпісам "Рамонт". Нібыта "раманцёры" не ведалі, што воз рыхтуюць зімою, а сані — летам. І толькі ўжо на пляцоўцы ля стадыёна напаткалі мы белую перасоўную і, відавочна, прыватную будачку, дзе можна было купіць сок у пакеціках са спецыяльнай трубачкай. Гэта яшчэ па 10 тысяч рублёў на кожнае дзіця. "Фанты-колы" ў разліў я піць нікому б не раіў. Затое піва было ўдосталь у нашым традыцыйным выкананні. У бутэльках — жлукціце з "горла"!

Ніводнае грамадскае месца не можа абысціся без такой рэчы, як прыбіральня. У адной з іх штосьці грукала, і без шыльды было відаць, што рамонт. Справа звыклая. Як звычайна, у нас не ведаюць, калі наступае лета. У другую мала хто адважваўся весці сваіх дзяцей, каб яны да канца дня не патыхалі смуродам і не запэцкалі чысцюткі абутак экскрэментамі, з-за якіх няма дзе ступіць. Справа, зноў жа, звыклая. Нашы арганізатары дзіцячага адпачынку ніколі не бачылі, як павінна выглядаць цывілізаваная прыбіральня. І дзеткі зусім па-нашаму прытойваліся за рэдкімі дрэвамі. Прахожыя адносіліся да гэтага з разуменнем. У нас не Германія і нават не Літва. У нас — Беларусь.

Але калі ўжо прыйшлі ў парк адпачываць, то ніяк нельга мінуць атракцыёны. Вялізнае "кола агляду" круціла тры сямействы. Астатнія пазіралі збоку. І зноў хочацца ўскрыкнуць: "Ды зрабіце вы кошт не 6—8 тысяч, а 500 рублёў! Усё роўна тая ж самая энергія затрачваецца на адзін абарот кола, але затое колькі яшчэ дзяцей зможа зірнуць на сваю сталіцу з вышыні птушынага палёту! Колькі дзяцей адчуе хвіліны захаплення! Ды і выручка ж большай будзе!" Не. Трымаюць цану. Як добра зладжаны рэкет на рынку. Маўляў, нідзе вы, бацькі, не дзенецеся: усё роўна вас дзеці "дастануць". Але як "дастаць", калі ў кашальку не густа? І пакуль што круцяць паветра ў чаканні піку сезона. У паўтарамільённым горадзе некалькі тысяч заможных сем'яў заўсёды знойдзецца. А ў выхадны дзень у парк усё роўна прыйдуць, бо такі ён у Мінску адзін. Пра дзяцей не думаюць. Думаюць пра грошы.

Дарэчы, пра грошы. Мне могуць запярэчыць, што такое ўбоства ў беларускім дзіцячым парку імя расійскага пралетарскага пісьменніка тлумачыцца менавіта іх адсутнасцю. З гэтым я ніколі не пагаджуся. Тут куюцца грошы. І вар'яцкія!

На невялічкай пляцовачцы, ну мо метраў 20 квадратных (арандаваных камерсантамі?), стаяла некалькі машынак і матацыклікаў з акумулятарамі. Дзіця садзіцца, націскае на педальку і едзе, як на сапраўдным аўтамабілі ці матацыкле. Дзве хвіліны — 70 цэнтаў (тут, і далей, вядома, у эквіваленце). Самае цікавае, што гэты час нідзе не фіксуецца. Не паспееш вокам міргнуць, як падыходзіць "круты" хлопец і тлумачыць, што час вашага карыстання дзіцячым транспартным сродкам ужо скончыўся. Бо ты не глядзеў, колькі менавіта часу затрачана на тое, каб пасадзіць малога ў машыну, колькі пайшло на тое, каб растлумачыць трохгадоваму дзіцяці, якую педаль націскаць. Як толькі ён паехаў, адразу адны сутыкнуліся з другімі, бо арандаваны пятачок вельмі малы. Пакуль разбіраліся — час скончыўся. Яшчэ цікавей, што гэтыя самыя педалькі часам наогул не дзейнічаюць. І самае цікавае тое, што дзяўчына з блакноцікам у руках не выдае вам ніякіх квіткоў і толькі нешта запісвае ў левым і правым радку. Ніхто і ніколі не даведаецца, колькі грошай вы паклалі ў яе кішэнь. І ніякая падатковая інспекцыя, падобна на тое, ніколі тут не была. А калі і была, дык, відавочна, пайшла адсюль вельмі задаволеная.

І я падумаў. Калі б я не быў такі дурны і за 70 долараў купіў у чэшскім горадзе Мельнік паліцэйскі матацыклік з акумулятарам, мігалкамі і сірэнамі і г.д. (а не такі задрыпаны, як у нашым цэнтральным дзіцячым парку), то ён мне акупіўся б за адзін (!) дзень. Тры хвіліны — адзін долар. Яны на задрыпаным робяць больш. Тры колы і палачка накшталт руля. За дзень, а хутчэй за ўсё за паўдня яны кампенсуюць кошт сваіх зломкаў, а пасля кожны дзень кладуць па 70 долараў у кішэню, і ніякая падатковая інспекцыя іх не турбуе. І ніякім законам не абароніш свае правы спажыўца, бо ніякіх дакументаў, што ты карыстаўся іх паслугамі, няма. Няма і афіцыйных сведчанняў, што іх зломачныя дзіцячыя транспартныя сродкі бяспечныя і дазволены да карыстання. Адным словам, бізнес па-беларуску.

Я ўжо не кажу пра тое, што, каб паскакаць на батутнай сетцы, трэба заплаціць па долару за кожныя пяць хвілін. Нібыта гэтыя сеткі цяжка зрабіць і паставіць у парку проста так. Бясплатна.

Цягнік на дзесяткі два месцаў возіць адно дзіця, адно дзіця плешчацца ў пластмасавых шарыках... Астатнія пазіраюць збоку: дорага!

І так будзе да таго часу, пакуль нашы ўлады будуць пеставаць гэты куток камерцыйнага дзяцінства, дзе думаюць не пра дзяцей, а пра грошы.

Прачытаўшы гэты артыкул становіцца яшчэ і яшчэ раз зразумелым, чаму Лукашэнка і яго бальшавіцкая каманда імкнуцца да саюзу з Расеяй. Бо ў Расеі такі-ж самы бруд і беспарадак...

Ну, а далучацца да Захаду з такою "перадавой культурай" ніяк не выпадае, або папросту сорамна...



Апошнім часам мне ўдалося выявіць даволі шмат успамінаў пра генэрала Вітушку й ягоную партызанскую дзейнасьць. Частка зь іх друкавалася ў нямецкіх газэтах, а пасьля перадрукоўвалася беларускай эміграцыйнай пэрыёдыкай. Асабліва шмат успамінаў пра генэрала Вітушку пакінулі немцы — партызаны "Чорнага Ката", якім удалося перабрацца на Захад. Пэтэр А. ўспамінаў: "Вітушка — чалавек сярэдняга росту, крамяны, з кучаравымі валасамі... штодня праводзіць са сваімі камандзірамі аддзелаў сытуацыйныя канфэрэнцыі. Ад розных неспадзевак яго ахоўвае варта — малапрыкметныя хлопцы. Удзень і ўначы яны заўсёды напагатове, пільнуючы каля радыёвых апаратаў тыпу "Добра" і "Цэзар"... Вітушка ёсьць усюды і... нідзе. Заўсёды мае тысячы розных намыслаў. За кароткі, параўнаўча, час здолеў ён згуртаваць навакол сябе блізу 50 000 партызанаў".

Другі немец пісаў: "(у ваколіцах Коўна) ўпершыню спаткаўся я зь Вітушкам — камандзірам партызанаў, перад якім усе маюць страх і які мяне дапытваў. Ён ёсьць сярэдняга росту, чорнавалосы й мае вельмі хуткі пагляд... Вітушка зьяўляецца фанатычным праціўнікам бальшавізму. Ён хоча змагацца ўсімі сродкамі за незалежнасьць свае беларускае Бацькаўшчыны... З Коўна я быў адкамандзіраваны для выкананьня майго першага заданьня. Я прыбыў у Вільню й вельмі зьдзівіўся, што гэты такі вялікі горад выглядаў, як бы быў партызанскім гнязьдом. Мы маглі тут даволі свабодна рухацца. Дзяржбяспека й паліцыя ня маюць адвагі, пачынаць што-небудзь супраць людзей Вітушкі, бо баяцца яго помсты, аб чым ужо маюць яны добрае дасьведчаньне. На буфэрах таварнага цягніка мы выехалі зь Вільні ў Ліду. Цэлы гэты адрэзак ахоўваецца паліцыяй і войскам. Нам не рабілі нічога, бо мы мелі адпаведныя паперы (зразумела, сфальшаваныя), а да гэтага такі спосаб падарожжа тут зусім звычайны". (Цытуецца паводле нямецкай газэты "Abendpost", 11 Dezember 1948.)

Сустрэчу зь Вітушкам апісвае ў сваіх успамінах і Д.Гасмюлер. Ён цьвердзіць, што некаторы час штаб-кватэра Вітушкі знаходзілася ў Вільні. Сустрэча гэтая адбылася ў "добра абсталяваным асабняку ўсё яшчэ прыгожае Вільні". "Вітушка сядзеў за пісьмовым сталом, — успамінае Гасмюлер, — як дырэктар нейкага прадпрыемства, безь ніякіх таямніцаў, якімі звычайна ўпрыгожваюць іншых партызанаў за "зялезнай заслонай". Прывітаўшыся, ён сказаў:

— Я вельмі рады, што вы трапілі да нас. Назначаем вас кур'ерам і сувязным. Думаю, што на нуду ня будзе часу.

Ён кіўнуў галавой і я мог ісьці. Вось гэта быў Вітушка, за галаву якога Саветы вызначылі велізарныя прэміі. Адвага, зь якой вёў ён свае справы, імпанавала мне". (Цытуецца паводле публікацыі ў газэце "Зважай", №2, 1978.)

На пошукі генэрала М.Вітушкі былі кінутыя вялікія сілы, але ўсе высілкі МГБ ні да чаго не прыводзілі. Калі спачатку бальшавікі распаўсюджвалі ўлёткі ў справе "поимки" або забіцьця "бандита Витушки", дык пасьля ў сваіх афішках пачалі заклікаць генэрала Вітушку й ягоных намесьнікаў Ахрэма й Шукайловіча да "пераходу" на іхны бок. У бясьсільнай злобе кідалі Саветы супраць "Чорнага Ката" цэлыя дывізіі з самалётамі, танкамі, ужывалі атрутныя газы... Пасьля адной з гэткіх карных апэрацыяў Міхал Вітушка пісаў: "Трэці раз мы перамаглі бальшавіцка-акупанцкую аблогу і трэці раз засталіся пераможцамі ў няроўным баі, як будзем пераможцамі і ў апошняй бойцы, гонячы маскаля ў Маскву. Вольная беларуская дружына яшчэ дыша і жыве, а вянок геройства вакол галавы беларускіх партызанаў, адзіных вольных людзей на Бацькаўшчыне, ужо цяпер зіхацідь вясёлкаю за гэтыя багатыя геройствам бойкі з акупантам. Крывавячыся ў зацятых баёх, далучаюцца да дарагіх ценяў палеглых за волю змагароў нашыя слаўныя сябры, але беларускія партызаны вытрымалі і вытрымаюць. Вытрымалі мы і гэты раз, хоць лютасьць ворага і кінутыя ім у бойку сілы пераходзілі ўсё дагэтуль бачанае. Нас не перамаглі нават кінутыя ў бой танкі і самалёты... Побач з намі ў гэтай бойцы сталі і нашыя ўкраінскія й нямецкія сябры і, у найкрытычнейшы момант, калі здавалася, што неба зьмяшалася зь зямлёю, мы перамаглі толькі поўным даверам адзін аднаму. І разам з гордасьцю памяць палеглых герояў мы атрымліваем гордасьць і за беларускага партызана — народнага ваяку за праўду і волю — агулам" (Часопіс "За Волю", № 16, 7 лістапада 1949.)



Летам 1952 году каля Слоніма праходзілі буйныя вучэньні войск Беларускай вайсковай акругі. Як сьведчаць старажылы, сотні савецкіх вайскоўцаў былі параненыя й забітыя за час іх правядзеньня. Адзін дзед прыпамінаў, што нібыта загінуў нават савецкі генэрал. Я зацікавіўся гэтым і даволі хутка знайшоў успаміны малодшага сяржанта Аляксандра Крука, што друкавала мюнхенская "Бацькаўшчына" ў 1956 годзе.

Аказалася, што вялікія ахвяры гэтых вучэньняў не былі выпадковымі. Усё пачалося ў першы дзень манэўраў а чацьвертай гадзіне. "Два чалавекі з "Чорнага Ката" (звычайна там гаворыцца "чорная кошка"), — успамінае А.Крук, — пераадзетыя ў форму савецкіх жаўнераў, як патрулі, спынілі машыну генэрал-лейтэнанта, камандуючага Беларускай акругай, і пад сілай зброі забралі генэрала й ягонага ад'ютанта з машыны ды з завязанымі вачыма павялі іх у лес. Цераз колькі часін гэтыя партызаны вярнуліся адтуль пераадзетыя ва ўніформы двух арыштаваных імі савецкіх афіцэраў і на працягу паўтары гадзіны камандавалі манэўрамі. Рабілі ўсё наадварот, але вельмі хітра. Манэўры былі заплянаваныя шырока й адбываліся з войстрай зброяй, як на фронце. Вынікі пераблытанае акцыі далі сябе зараз жа адчуць. Машыны не спраўляліся вазіць у санчасьці раненых і пабітых ці падушаных. За паўгадзіны ўсе санчасьці былі перапоўненыя... Характэрна, што ў часе, калі генэрал "Чорнага Ката" камандаваў манэўрамі, ён прыймаў таксама, не выходзячы з машыны, рапарты падпарадкаваных яму высокіх афіцэраў..."

Толькі выпадкова Вітушка быў выкрыты й арыштаваны. Аднак, у той жа дзень ён быў абменены на генэрал-лейтэнанта С.Цімашэнку. Пазьней савецкія вайсковыя гісторыкі пісалі: "Серьёзной проверкой явилось крупное общевойсковое учение, состоявшееся в округе в 1952 г. Оно показало, что воины научились действовать во всех видах боя, умело использовать опыт войны, новые технические средства, внося свой вклад в дело дальнейшего повышения могущества Родины..." (Цытата з кнігі "Белорусский Военный Округ".)

Пра далейшы лёс генэрала Вітушкі існуе некалькі вэрсіяў. Пэўна толькі тое, што падпольле й партызанка Беларускае Незалежніцкае Партыі актыўна змагалася з акупантамі да 1956 г. Праўдападобна, што й Вітушка заставаўся на Бацькаўшчыне аж да часу здушэньня Вугорскае рэвалюцыі, калі стала відавочнаю беспэрспэктыўнасьць далейшае барацьбы...

Вельмі абмежаванае кола людзей ведала тайну зьнікненьня М.Вітушкі. На некалькі гадоў я спазьніўся й не застаў у жывых стрыечнага брата Вітушкі генэрала Дзьмітрыя Касмовіча (псэўданім "Каршун", старшыня Замежнага сэктару ЦК БНП). Здолеўшы навязаць сувязь з прэзыдэнтам БЦР, сябрам ЦК БНП Міхасём Зуём, я не пасьпеў зь ім сустрэцца, а ў лістах ён ня мог напісаць праўды (Зуй памёр у 1995 годзе)... Але яшчэ ёсьць спадзеў, што ў бліжэйшай будучыні "тайна Вітушкі" будзе адкрытая, і гісторыкам ня прыйдзецца больш ставіць замест даты ягонае сьмерці пытальнік.

**Сяргей Ёрш**

## Рамантык Адраджэння

Так многія называюць музыканта і спевака Данчыка – Багдана Андрусішына, які ў другі раз наведаў Беларусь.

Першае турнэ па нашай рэспубліцы адбылося ў 1989 годзе. Яго канцэртныя выступленні праходзілі тады з велізарным поспехам.

З дапамогай беларускай дыяспары ў Амерыцы ён запісаў некалькі дыскаў, аўдыёкасет. Данчык – гэта не прафесійны спявак, хоць і надзвычай таленавіты.

У сёлетні прыезд ён выступіў з канцэртамі ў Мінску, Гродне, Полацку, Віцебску.

Нарадзіўся і вырас Данчык у Амерыцы. Але тое, што мае беларускія карані, Данчык добра ўсведамляе. Канешне ж, яму вельмі хацелася б, каб на Бацькаўшчыне людзі жылі свабодна і заможна, каб перажылі цяжкасці, той песімізм, які пануе зараз у грамадстве.

**Марыя ЖЫЛІНСКАЯ, фота аўтара.**

**● КАНФЕРЭНЦЫІ**

«НАВІНЫ А.Н.Б.»

# Гісторыкі краіны сабраліся разам. Ужо ў другі раз

**10—11 красавіка ў Мінску прайшла другая Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Арганізавала і правяла яе Беларуская асацыяцыя гісторыкаў.**

З грунтоўным дакладам «Асноўныя вынікі і задачы даследавання гісторыі Беларусі» на адкрыцці канферэнцыі выступіў акадэмік АНБ М. П. Касцюк. За тыя чатыры гады, што прайшлі з моманту правядзення першай УКГ, даследаванне гісторыі Беларусі вялося актыўна па ўсіх яе напрамках. Больш даступнымі для вучоных сталі архівы, і дзякуючы новаатрыманым крыніцам гісторыкі здолелі асвятліць не толькі новыя праблемы, але і пераасэнсаваць пэўныя старонкі нашай мінуўшчыны.

Адной з галоўных задач апошніх гадоў было далейшае развіццё і ўдасканаленне нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі гісторыі Беларусі, напаўненне яе палажэнняў канкрэтным зместам. Сёння ўжо можна канстатаваць, падкрэсліў М. П. Касцюк, што на пазіцыі нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі стала абсалютная большасць гісторыкаў краіны. Праўда, на некаторыя праблемы ў вучоных маюцца розныя погляды. Але ж у гэтым няма нічога дзіўнага: пазнаванне невядомых старонак мінуўшчыны — працэс творчы, дынамічны і праз некаторы час ісціна ўрэшце рэшт будзе знойдзена.

Найбольш значнай публікацыяй апошніх гадоў Міхаіл Паўлавіч назваў «Нарысы гісторыі Беларусі» ў 2-х частках, што выйшлі накладам ў 40 тысяч экзэмпляраў. Гэта грунтоўная праца ўжо атрымала 10 станоўчых рэцэнзій вучоных-гісторыкаў Беларусі і Расіі. У значнай ступені прынцыповыя падыходы вытрыманы ў трох першых тамах «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», а таксама ў манаграфічных даследаваннях, якія зараз сталі з'яўляцца даволі рэдка.

Далей прамоўца спыніўся на асноўных выніках і задачах даследаванняў па важнейшых перыядах гісторыі нашай Бацькаўшчыны. У дачыненні да археолагаў М. Касцюк зазначыў, што ў 1992—1994 г. палявыя даследаванні з-за адсутнасці сродкаў амаль не праводзіліся. Аднак нягледзячы на гэта, яны ўсё ж такі здолелі сканцэнтраваць свае намаганні на асноўных праблемах і дасягнуць станоўчых вынікаў. У першую чаргу гэта тычыцца даўняй праблемы — этнагенезу беларусаў. Большасць археолагаў падзяляе выснову аб тым, што паступовае засяленне нашай тэрыторыі славянамі адбывалася шляхам асіміляцыі мясцовых плямёнаў. Разам з тым тэорыя балцкага субстрату ў этнагенезе беларусаў патрабуе далейшага ўдасканалення прымяняльна да розных рэгіёнаў. Не засталіся без увагі дасягненні вучоных у галіне гісторыі Беларусі часоў Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, знаходжання ў складзе Расійскай імперыі.

М. Касцюк адзначыў, што павышаную ўвагу праяўлялі і праяўляюць гісторыкі да савецкага часу. Ужо цяпер відавочна, што гэты перыяд застанецца ў нашай гісторыі менавіта як савецкі, з яго асаблівасцямі і храналагічнымі межамі. Дык вось, сярод часткі айчынных гісторыкаў з'явіліся памкненні разглядаць гэты перыяд ці бліжэй да таго, як гэта рабілася на працягу дзесяцігоддзяў савецкай улады, ці зусім па-новаму, фактычна без уліку таго, што было напрацавана раней. На думку дакладчыка, такія падыходы нельга назваць навуковымі. Выйсце — ва ўсебаковым падыходзе, з улікам і адной і другой пазіцыі.

На першым пленарным пасяджэнні прагучалі яшчэ два даклады: доктара гістарычных навук В. А. Фядосіка («Праблемы і перспектывы вывучэння і выкладання ўсеагульнай гісторыі») і доктара гістарычных навук У. Н. Сідарцова («Актуальныя метадалагічныя праблемы даследавання і выкладання гісторыі»).

Далейшая работа праходзіла ў сямі секцыях: «Старажытная гісторыя Беларусі па новых археалагічных даных», «Сярэднявечча ў Беларусі ў кантэксце агульнаеўрапейскіх гістарычных працэсаў», «Беларусь і сусветная гісторыя новага часу», «Беларусь у гісторыі навейшага часу», «Гісторыя славянскіх краін. Усеагульная гісторыя», «Гістарыяграфія, крыніцазнаўства, іншыя спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны» і «Праблемы метадалогіі і методыкі выкладання гістарычных дысцыплін». На іх быў заслуханы і абмеркаваны 181 даклад. Аб рабоце 6 секцыі («Гістарыяграфія, крыніцазнаўства, іншыя спецыяльныя дысцыпліны») я папрасіў расказаць яе кіраўніка, доктара гістарычных навук В. М. Фаміна:

— У рабоце секцыі прынялі ўдзел 48 чалавек, з дакладамі выступілі 29. Большасць дакладаў характарызуецца глыбокай навуковасцю, новымі падыходамі. Амаль усе аўтары ў сваіх выступленнях зыходзілі з пазіцый нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі ў асвятленні айчыннай гісторыі. Па праблемах метадалогіі і методыкі выкладання гісторыі асаблівая ўвага надавалася неабходнасці выкарыстання розных прынцыпаў і падыходаў у асвятленні гістарычных з'яў і падзей, што неабходна для забеспячэння ўсебаковасці навуковага аналізу, дакладнасці аўтарскіх высноў і абагульненняў. Цікавымі былі даклады па праблемах крыніцазнаўства. Іх аўтары з вялікай заклапочанасцю гаварылі аб істотных недахопах і цяжкасцях работы дзяржаўных гістарычных архіваў, уносілі прапановы па іх пераадоленню.

У час работы канферэнцыі прайшоў кангрэс членаў Беларускай асацыяцыі гісторыкаў, на якім адбыліся выбары кіраўніцтва БАГа. Прэзідэнтам асацыяцыі абраны дырэктар Інстытута гісторыі акадэмік АНБ М. П. Касцюк, віцэ-прэзідэнтам — дэкан гістфака БДУ дацэнт А. А. Яноўскі. Абраны таксама пяць членаў прэзідыума.

**Алесь БІЦАРУК.**



IN MEMORIAM



Сьвятой Памяці

## АЛЯКСАНДРА ЧАРНЭЦКА

26. II. 1896 — 21. V. 1997

18-га травеня 1997 году на 102-ім годзе жыцьця адыйшла на вечны супачынак, сьветлае памяці Спадарыня Аляксандра Чарнэцкая, пакінуўшы ў смутку дачок: Ванду Махнач і Ірэну Гайдзель ды сына Др. Юрку Чарнэцкага; шасьцёра ўнукаў і пяць праўнукаў.

Паховіны Сьв. Памяці Аляксандры Чарнэцкай адбыліся 21-га Мая 1997 г. з каталіцкае сьвятыні St. Louise de Marillac Church на магільнік Queen of Heaven у Чыкаго, ЗША. Пахавальны абрад выканаў а. Ян МкДоннэль.

Сьв. Пам. А. Чарнэцкая радзілася 26-га лютага 1896 году ў Маскве. Там выйшла замуж за Янку Чарнэцкага ды пераехалі на Беларусь у Ляхавічы, каля Баранавіч, дзе яна аддана ўлучылася ў беларускае жыцьцё.

У Чыкаго, Сьв. Пам. Аляксандра, была парафіянкай Царквы Хрыста Збаўцы і заўсёды сьпявала ў царкоўным хоры аж да сто гадоў. Была яна адданаю патрыёткаю беларускага адраджэньня і заўсёды падтрымоўвала ўсе беларускія патрыятычныя пачынаньні.

Няхай Успамін пра Яе вечна жыве ў сэрцах тых, хто Яе ведаў!

Сьпі спакойным сном дарагая мама, бабка і прабабка!

Хай будзе пухам Ёй прыбраная, свабодалюбная амэрыканская зямля!

*ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!*



## СУМНЫЯ ЎГОДКІ

29-га ліпеня гэтага году прыпадае гадавіна сьмерці Аляксандра і Надзі Младзяноўскіх з Беласточчыны. Пахаваны яны на праваслаўным магільніке ў гор. Кляшчэлі, каля Гайнаўкі. Паніхіды будуць адслужаныя ў праваслаўных царквах ў Кляшчэлях і Grand Rapids, USA. Спакойнага сну Вам дарагія бацькі, бабуля і дзядуля, а памяць пра Вас будзе вечна жыць у сэрцах тых, хто Вас ведаў.

У смутку застаюцца: дачка Вера з мужам Міколам і ўнучкі Анна-Юлія ды Сафія-Гэлена Прускія. Таксама ўся сям'я, родныя і знаёмыя ў Польшчы.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

## *УВАГА! УВАГА!*

Прапануецца набыць двух-гадзінную відэо-касэту з канцэртам Данчыка ў Менскай Філармоніі 12. 18. 96 г.

цана: $25.оо

або гэты самы канцэрт з дадатковымі выступамі на 40 хвілін — цана $30.оо

Да замоўленьня просім дадаць $2.оо на перасылку. Час перасылкі ад аднаго да двух тыдняў.

Mrs. Vera Bartul
146 Sussex Drive
Manhasset, NY, 11030

Mrs. Raisa Stankevich
82-21, 164 Place
Jamaica. NY. 11432

Mrs. Julia Andrusyshyn
430 E. 6th St. Apt. 3C
New York, NY. 10009

## ГАДАВЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ у АНГЛІІ.

Агульны Гадавы Зьезд сяброў і дэпутатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбыўся ў суботу 7 чэрвеня 1997 г., а гадзіне 14.оо у залі пры Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Зьезд быў адкрыты старшынём ЗБВБ Сп. В. Еўдакімавым. Старшыня папрасіў а. А. Надсона малітвай зьвярнуцца да Бога за посьпех Зьезду. Пасьля малітвы а. Надсон прыпомніў першы Зьезд у Лъндане, на якім паўстала ЗБВБ аб'яднаўшы беларусаў Англіі і якое яднае іх да сёньня.

Наступна была выбрана мандатная камісія ў складзе: Сп. Сп. М. Баяроўскі, С. Будкевіч і Я. Шастова. Пасьля праверкі картатэкі сяброў і прысутных, камісія дэкляравала, што маецца кворум і, што Зьезд мае права прадаўжаць сваю працу.

У прэзыдыюм Зьезду былі выбраныя: Сп. М. Шведзюк — старшыня, Др. І. Гурло і Спд. І. Дабяніцкая — сакратары. Пратакол папярэдняга гадавога Зьезду прачытаў Др. І. Гурло, а справаздачу ўступаючай Галоўнай Управы за апошні год здаў старшыня В. Еўдакімаў. Ён папрасіў прысутных хвілінай цішыні ўшанаваць памяць сяброў, якія адыйшлі ў іншы сьвет. Далей ён прывітаў новых сяброў, якія папоўнілі рады арганізацыі.

Інфармацыю аб дзейнасьці Харытатыўнай сэкцыі пры ЗБВБ прачытала старшыня Л. Міхалюк, а фінансавую справаздачу зрабіў І. Гурло. Фінансавыя справаздачы будынкаў ЗБВБ у Лёндане, Братфордзе і Манчэстары здалі іх адміністратары. Пасьля дыскусыяў над справаздачамі Зьезд прызнаў абсалютоюрым уступаючай Управе.

Новая Ўправа была выбраная ў складзе: Спд. Л. Міхалюк — старшыня, а сакратар і скарбнік — Др. І. Гурло. Сябры Ўправы: а. А. Надсон, Ясіловіч і Спд. Сенько. Наглядная рада: Сп. В. Мартынчык, Казлоўскі і М. Сенько.

У Розных справах Сп. В. Еўдакімаў паведаміў Зьезд пра зварот ЗБС "Бацькаўшчына" аб плянаваным Зьезьдзе, які мае адбыцца ў Менску 26-27 ліпеня 1997 г. Пасьля ўсебаковай дыскусыі было пастаноўлена, што дзеля цяперашняга палітычнага становішча, якое існуе ў Беларусі, афіцыйнай дэлегацыі не высылаць, а толькі прывітаньне і фінансавую дапамогу камітэту Зьезду.

Зьезд закончыўся адсьпяваньнем гымну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Старанныя сяброўкі ЗБВБ падрыхтавалі пранцыце для ўдзельнікаў Зьезду.

С. Будкевіч.

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Рэдакцыі "Беларускі Дайджэст".
Шаноўны Спадар Рэдактар!

У апошнім маёвым № (5/41) 1997 г. "Беларускага Дайджэсту" заўважыў артыкул Спадара В. Нікіфаровіча: «Новый Союз. или Аннексия?», дзе ён палемізуе аб беларускіх нацыянальных сьвятах. Пачынае артыкул узьнёсла-патрыятычна: "25 марта — День независимости Беларуси. День истинной, настоящей независимости". Але далей у сваіх разважаньнях аўтар дапускаецца да няпраўдзівых прыпушчэньняў, цытую ўрывак з гэтага артыкулу: "Долгие годы и десятилетия этот праздник отмечался только белорусами в эмиграции...(гэта праўда) После крушения тоталитарной коммунистической системы и распада СССР вспомнили об этом празднике и в Республике Беларусь. При С. Шушкевиче в Минске и других городах проходили даже митинги и торжественные заседания, посвященные дню 25 марта. На одном из них выступил живущий ныне в Нью-Йорке Председатель Рады БНР в изгнании Язэп Сажич и заявил, что возглавляемая им Рада слагает свои полномочия, поскольку Беларусь обрела новую независимость и здесь начались серьезные демократические и рыночные преобразования".

Невядома дзе Сп. Нікіфаровіч вычытаў, ці хто яму падказаў пра такое маё заяўленьне, што "слагает свои полномочия". Гэтаму я катэгарычна запярэчваю, бо калі быў запрошаны праз БНФ на сьвяткаваньне 75-тых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Менску, то выступаў толькі з прывітаньнем ад Рады БНР, з нікім з тагачаснага Ўраду Беларусі не спатыкаўся, за выняткам Праф. С. Шушкевіча, з якім коратка пазнаёміўся пры аказіі седзячы поруч у пачэсным Прэзыдыюме на ўрачыстай Акадэміі. Ня было ніякага плянаваньня ані дыскусіяў у справе перадачы мандатаў Рады БНР тагачаснаму Ўраду, ці Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь. У Нью-Ёрку я ніколі не пражываў, хоць часта прыязджаў у Нью-Ёрк на сэсіі Рады БНР ці розныя зьезды.

Прашу надрукаваць гэтае спраставаньне ў Вашай газэце, бо можа дайсьці да таго, што пачнуць пісаць, што Рада БНР ужо поўнасьцю перадала свае паўнамоцтвы Рэсп. Беларусь. Жыве Беларусь!

З найлепшымі пажаданьнямі,
Язэп Сажыч.
Старшыня Рады БНР.

Вельмі Паважаны Спадар Прускі!

Прабачце, калі ласка, што са спазьненьнем перасылаю сьціплую ахвяру на "Беларускі Дайджэст". Газэта вельмі цікавая і шырока інфармацыйная. Вы робіце вельмі карысную і ахвярную працу для дабра нашага гаротнага беларускага народу і ўкрыжаванай здраднікам, Юдам Іскарыёцкім — Лукашэнкам, дарагой Бацькаўшчыны Беларусі.

Няхай Вам Бог дае добрага здароўя і сілаў у Вашай цяжкай і адказнай працы, і "многае, многае лета!"

Заўсёды з шчырай пашанай да Вас, М. Б.

*Дзякуем за ахвяру і ліст. А ахвяры нам цяпер, як ніколі, вельмі патрэбныя. Людзі звоняць і просяць выдаваць газэту калі не часьцей, дык прынамсі на 12 бачынаў. А на гэта патрэбныя сродкі. Апошнім часам атрымоўваем вельмі шмат просьбаў дасылаць нашу газэту ў Расею ды іншыя краіны блізкага замежжа, а перасылка каштуе вельмі дорага. Таму просім Вас, пастарайцеся заахвоціць сваіх знаёмых і прыяцеляў у Вашым асяродзьдзі дапамагаць у выданьні нашае незалежнае беларускае газэты...*

Паважаны Сп. Прускі!

Перасылаючы ахвяру на выдавецкі фонд газэты, хачу выказаць некалькі асабістых думак. Вось-жа газэта вельмі часта крытыкуе прэз. Лукашэнку ды яго каманду з калгасных конюхаў, што захапілі ўладу ў свае нячыстыя рукі на Беларусі. Гэта людзі ўчарашняга дня, нікудышнікі... Але-ж ці толькі бяда ў гэтай каленіяльнай праслойцы паўпісьменнае бюракратыі? Гляньце на насельніцтва Беларусі. Гэта адсталасьць, п'янства, рускі мат і рабскае існаваньне... Ды нашто далёка хадзіць, гляньма на нас самых у Амэрыцы... Ці-ж ня тое самае, можа толькі што рускі мат тут не ў пашане... За малымі выняткамі і тут пануюць адсталасьць і рабская прывычка... Скупасьць немаверная, хоць грошай хапае... Я іншы раз дзіўлюся, як Ты можаш выдаваць газэту і вытрымоўваць пры наяўнасьці такой "чытацкай" публікі...

Прымі маё старчае прывітаньне і пажаданьне вытрымальнасьці..
Твой, С. М.

*За ахвяру дзякую, а пра іншыя сумныя назіраньні, відаць, прыдзецца пагаварыць іншым разам, бо падобныя паняцьці выказваюцца даволі часта.*

## Як жывецца — так пяецца

Жыць у Саюзе прагнуць людзі!
Ціха, мілка, не пішчы —
Беларускім лапцем будзем
Хлебаць рускія баршчы.

Ой, не ў паліве прычына,
Што усё агнём гарыць.
Нашы продкі й пры лучыне
Змаглі нацыю стварыць.

Хто там так крычыць заўзята:
«Беларусь, айда у НАТО!»
Толькі што нам з гэтай «наты» —
Лепш сваёй трымацца хаты.

*Аляксандар ЛЯСУН*

## ХАЙ-ЖА КЛІЧ НАШ ЛЯЦІЦЬ НАД СУПОЛЬЛЕМ...



*Над табою згусціліся хмары,*
*Сінявокая Белая Русь.*
*Зноў твой лёс вырашаюць пачвары*
*І чужынцам наш плён аддаюць.*

*Ты прайшла праз шматлікія бітвы,*
*Знала росквіт, уздым — і палон.*
*Густа потам з крывёю паліты*
*Кожны ўзгорак і кожны загон.*

*Твая слава ў стагоддзях гучала,*
*Прыгажосць тваіх песняў і ніў*
*Услаўляў Багдановіч з Купалам,*
*Каліноўскі мячом бараніў.*

*Сёння чыніць манкурт небяспеку*
*Самабытнасці й волі тваёй:*
*Усе нашы святыні спрадвеку,*
*Нават мову — руйнуе з зямлёй.*

*Нам, нашчадкам былых пакаленняў,*
*Выпаў лёс і адказнасці груз*
*За святое тваё Адраджэнне*
*І за волю тваю, Беларусь.*

*Хай жа кліч наш ляціць над суполлем,*
*Каб пачулі і Захад, і Усход:*
*Гонар свой, незалежнасць і волю*
*Барані, беларускі народ!*

